**Уладзімір Снапкоўскі**
(Мінск)

## Тры дакументы аб польска-беларускім памежжы 1919-1923 гг.

Пранаваныя ўвазе чытачоў тры гістарычныя дакументы аб'ядноўвае адна тэма — усходняя мяжа Польшчы, беларуска-польскае памежжа, усходнія крэсы былой Рэчы Паспалітай. Храналагічны ахоп гэтых дакументаў уключае перыяд 1919-1923 гг. Два першыя належаць Польскай нацыянальнай радзе беларускіх зямель (ПНРБЗ) — арганізацыі, малавядомай беларускім гісторыкам. Пра яе няма артыкулаў у „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" і іншых спецыялізаваных навуковых выданнях[1]. Аднак яе палітычная праграма, якая адлюстроўвала інтарэсы шырокіх колаў польскага грамадства на тэрыторыі Беларусі, перш за ўсё землеўласнікаў, уяўляецца даволі цікавай.

Польская нацыянальнавя рада беларускіх зямель (Polska Rada Narodowa Ziem Białoruskich) — адна з польскіх арганізацый, утвораных на тэрыторыі Беларусі для абароны інтарэсаў польскага насельніцтва, у тым ліку землеўласнікаў. Бярэ пачатак ад Польскай крэсавай рады ў Беларусі, створанай у 1917-1918 гг. Найбольш актыўныя ўдзельнікі — Міраслаў Абязерскі, Леон Лубенскі, У. Рыбінскі, Браніслаў Крыжаноўскі, Уладыслаў Завадскі. Выступала за злучэнне з Польшчай усіх зямель былога ВКЛ, аргументуючы гэта наступнымі пастулатамі: уключэнне ў склад Польшчы ўсёй тэрыторыі Беларусі — гэта значна меншае зло, чым яе падзел; мяжу 1772 г. лягчэй бараніць, бо гэта этнаграфічная мяжа паміж Расіяй і Беларуссю; на тэрыторыі Беларусі жыве больш палякаў, чым рускіх; існуюць трывалыя гаспадарчыя сувязі літоўска-беларускіх зямель з Польшчай; далучанаму абшару трэба даць шырокую самастойнасць, каб пазбегнуць абвінавачвання ў імперыялізме. Падчас выбарчай кампаніі ў Заканадаўчы Сейм 1919 г. Рада звярнулася ў Сейм з мемарыялам, у якім патрабавала ўключыць у Сейм прадстаўнікоў з крэсаў, пры гэтым адсутнасць вызначаных дзяржаўных межаў не павінна была ўплываць на выключэнне крэсаў з выбараў. Пасля заняцця Мінска польскімі войскамі 8 жніўня 1919 г. Прэзідыум Рады накіраваў мемарыял Ю. Пілсудскаму, дзе заклікаў выкарыстаць нестабільную сітуацыю ў Расіі і заняць тэрыторыі да мяжы 1772 г.

[1] Эпізадычную інфармацыю пра яе дзейнасць удалося знайсці толькі ў кнізе: К. Гамулка, *Паміж Польшчай і Расіяй: Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў (1918-1922)*, Вільня 2008.

Рада патрабавала ад урада ўключыць яе прадстаўніка ў склад польскай дэлагацыі на польска-савецкіх мірных перагаворах, чаму аднак перашкодзіла пазіцыя Ю. Пілсудскага, які сцвярджаў аб непрыдатнасці землеўласнікаў да вядзення перагавораў. Таксама Рада вылучала празмерна вялікія на той час тэрытарыяльныя патрабаванні: уключэння ў склад Польшчы ўсёй тэрыторыі Беларусі і надання ёй шырокай аўтаноміі. М. Абязерскі рэзка крытыкаваў пазіцыю, якую заняла большасць польскай дэлегацыі па пытанні падзелу Беларусі. Найбольш адпаведным рашэннем ён лічыў скліканне нацыянальных рад на тэрыторыі Беларусі і Украіны, якія б выказаліся наконт будучыні гэтых зямель. У выпадку рашэння на карысць Польшчы ён прапаноўваў прымяніць федэрацыйны падыход. Прэлімірны мір ад 12 кастрычніка 1920 г. Прэзідыум Рады назваў новым падзелам Польшчы, які пакінуў за яе межамі каля 1,5 млн. палякаў. Было заяўлена, што Польская нацыянальнавя рада беларускіх зямель ніколі не пагодзіцца з вызначанай мяжой. Напярэдадні ратыфікацыі Рыжскага мірнага дагавора Рада накіравала маршалку Сейма пратэст, у якім казалася аб пакіданні на савецкай тэрыторыі 1,5 млн. палякаў і невыкананай місіі Польшчы адносна Беларусі.

**Першы дакумент** змяшчае „Палітычныя высновы" Польскай нацыянальнай рады беларускіх зямель аб літоўска-беларускіх крэсах. Гэта заключны раздзел кнігі „Kresy Litewsko-Białoruskie Rzeczypospolitej Polskiej. Rzecz przyjęta i wydana przez Polską Radę Narodową Ziem Białoruskich", выдадзенай у Варшаве ў сакавіку 1919 г. Гэтая кніга, як дарэчы і другая, сёння бібліяграфічная рэдкасць у Польшчы, не кажучы ўжо пра Беларусь. З абедзвюма імі я пазнаёміўся ў Бібліятэцы Асалінеум у Вроцлаве.

„Палітычныя высновы" сапраўды дастаткова выразна адлюстроўваюць праграмныя пастулаты ПНРБЗ адносна „будучай дзяржаўнай арганізацыі на тэрыторыях Літвы і Белай Русі". Гэта шырока распаўсюджаны ў тыя часы сярод польскіх (і не толькі) палітычных і грамадскіх колаў тэзіс аб тым, што „ані Літва, ані тым больш Беларусь не ў стане стварыць асобныя самастойныя дзяржаўныя адзінкі і весці кіраванне ўласнымі сіламі". Не ўдаваючыся ў гістарычныя прычыны такога стану, аўтары канстатуюць адсутнасць дзяржаўна-творчых элементаў сярод літоўцаў і беларусаў, як і тое, што гэты край па сутнасці з XV ст. (г.зн. пасля Вітаўта Вялікага?) перастаў ужо жыць уласным дзяржаўным жыццём.

Дакумент негатыўна ацэньвае новыя дзяржаўныя арганізмы, узніклыя на тэрыторыі Літвы і Беларусі (адпаведна Тарыбу і БНР), лічачы іх цалкам несамастойнымі і залежнымі ад Германіі як Тарыба, ці нежыццяздольнымі як БНР. Адзіным магчымым выйсцем для літоўскай

і беларускай дзяржаўнасці прызнаецца іх уключэнне ў арбіту польскай дзяржаўнасці. ПНРБЗ лічыць, што ўсходняя мяжа павінна ісці ўздоўж граніц Рэчы Паспалітай паводле стану да 1772 г., бо яна амаль супадае з этнаграфічнай граніцай рассялення беларускага насельніцтва. З гэтага вынікае наступная слушная заўвага, якая пазней спраўдзілася: „Усялякае перасоўванне ўсходняй мяжы на захад было б свавольнай і цяжкай для абгрунтавання камбінацыяй, якая распалавіньваючы Беларусь і пакідаючы частку яе пры Польшчы, а другую пры Расіі, была б па прычыне такога наўмыснага падзелу крыўдай для беларускага насельніцтва, урэшце стварала б ядро і падатную глебу для распальвання варожасці і ўтварэння з расійскага боку беларускай ірэдэнты”.

„Палітычныя высновы” Польскай нацыянальнай рады беларускіх зямель заканчваюцца заклікам да аднаўлення ўніі Польшчы з дзяржавамі-спадкаемцамі былога ВКЛ — Літвой і Беларуссю, у выніку чаго аб'яднананая моцная Польшча стварыла б абарончы вал супраць германскага і расійскага імперыялізму, што забяспечала б раўнавагу ў Еўропе.

**Другі дакумент** змяшчае вытрымкі з кнігі „Рыжская канферэнцыя і наша ўсходняя граніца”, выдадзенай ПНРБЗ у 1920 г. Польская назва кнігі: „Konferencja ryska a nasza granica wschodnia. Rada Polska Ziem Białoruskich”. У перакладзе на беларускую мову ўпершыню друкуюцца „Прадмова” і першы раздзел кнігі „Наша ўсходняя мяжа”. Другая частка кнігі змяшчае дакументы і матэрыялы, з якімі выступала ПНРБЗ у сувязі з савецка-польскімі мірнымі перагаворамі. Некаторыя з іх увайшлі ў кнігу „Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914-1991 гг.): зборнік дакументаў і матэрыялаў. У 4-х тамах, т. 1: 1 жніўня 1914 — 18 сакавіка 1921 гг., частка 2: 3 студзеня 1920 — 18 сакавіка 1921 гг.” (Мінск 2008, 393 с.), падрыхтаваную вучонымі кафедры міжнародных адносін БДУ разам з МЗС Рэспублікі Беларусь і Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь.

Аўтары „Прадмовы” адкрыта і катэгарычна выступаюць супраць усходняй мяжы, прынятай на мірнай канферэнцыі ў Рызе і адобранай сеймам, лічачы гэта вялікай гістарычнай памылкай. У раздзеле „Наша ўсходняя мяжа” даецца грунтоўнае гістарычнае апісанне межаў паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, а дакладней, паміж ВКЛ і Расіяй. Аднак аўтары, зыходзячы з польскацэнтрычнай канцэпцыі ўзаемаадносін Польшчы і ВКЛ, называюць іх межамі паміж Польшчай і Расіяй, ці польска-расійскімі межамі. Зыходным пунктам бярэцца 1772 г., дата першага падзелу Рэчы Паспалітай. Адзначаецца, што гэтыя межы „не былі выпадковыя, іх стварыла гісторыя двух вялікіх, моцных палітычных арганізмаў, якія змагаліся адзін з адным, узаемна выцясняліся, імкнуліся да авалодання лініяй рэк, абарончымі і наступальнымі межамі”.

У раздзеле разглядаюцца розныя канцэпцыі мадыфікацыі польскай усходняй мяжы ў XIX — пачатку XX ст. (праекты А. Е.Чартарыйскага

і П. Песцеля, лінія нямецкіх акопаў часоў Першай сусветнай вайны, праект Польскага нацыянальнага камітэта). Усё гэта нарэшце вылілася ў прыняцце Рыжскай мірнай канферэнцыяй мяжы, якая, як адзначаецца, „была праведзена без уліку стратэгічных, эканамічных і нацыянальных інтарэсаў" Польшчы. Аўтары шчыра шкадуюць аб тым, што палякі „саступілі з надзвычайнай легкадумнасцю вялізную і багатую Мінскую зямлю, задаволіўшыся толькі яе ўскраінамі", што т.зв. лінія Керзана, якая праходзіць праз Беласток і Брэст, адрэзала ад Польшчы шэраг паветаў з польскай большасцю.

Дакумент змяшчае аналіз ваенна-стратэгічных, палітычных і эканамічных страт, якія панесла Польшча ў выніку перадачы Расіі значнай часткі сваіх усходніх крэсаў. У прыватнасці, адзначаецца нявыгадны ваенна-стратэгічны характар вызначэння мяжы: „Граніца гэтая ідзе пераважна лясамі, зараслямі, мае семдзесят з нечым кіламетраў балот і больш 500 км без аніякай натуральнай аховы, нават адносна малых рэчак". Прыводзяцца статыстычныя даныя аб натуральных і гаспадарчых багаццях Міншчыны, Магілёўшчыны, Палесся, якія адыходзілі ад Польшчы.

Як вядома, прадстаўнікі ПНРБЗ не былі ўключаны ў склад польскай дэлегацыі на мірных перагаворах з-за іх радыкальнай пратэстнай пазіцыі. Яны рашуча асуджалі дзейнасць польскай дэлегацыі, лічачы яе „чымсьці бяспрыкладным у гісторыі дыпламатыі", паколькі яна складалася з прадстаўнікоў варожых партый. Асаблівую іх незадаволенасць выклікала тройца Грабскі — Домбскі — Барліцкі, якая абвінавачвалася ў тым, што найбольш была схільная да саступак бальшавікам[2]. У прыватнасці, Грабскаму закідалася, што ён за нішто аддаў Мінск і Міншчыну, землі да верхняга Дняпра, а на поўдні да Цецерава і Случы. Шкадуючы аб тым, што больш за мільён польскага насельніцтва адышло да Расіі, аўтары кнігі запэўніваюць мясцовыя нацыянальнасці ў тым, што ім будуць гарантаваны стабільныя эканамічныя ўмовы і аўтаномія, калі на мяжы будзе стаяць польскі салдат.

**Трэці дакумент** — гэта ліст старшыні польскай дэлегацыі змешанай Пагранічнай камісіі на Усходзе Леона Васілеўскага міністру замежных спраў Канстанціну Скірмунту ад 6 снежня 1923 г., які сведчыў аб жаданні насельніцтва беларуска-ўкраінска-расійскага памежжа далучыцца да Польшчы. У ім гаворыцца, што жыхары польска-савецкага памежжа закідалі польскую дэлегацыю змешанай Пагранічнай камісіі петыцыямі з патрабаваннямі далучэння да Польшчы. У прыватнасці, Л. Васілеўскі піша, што

[2] Гл. на гэту тэму: У. Снапкоўскі, *Удзельнікі польскай дэлегацыі на Рыжскай мірнай канферэнцыі аб перагаворах з расійска-ўкраінскай дэлегацыяй аб вызначэнні мяжы паміж Польшчай і Беларуссю*, [у]: *Проблемы внешней политики и безопасности: Беларусь — Польша: история и перспективы сотрудничества*, Мінск 2009, с. 4-16.

„на ўсёй лініі мяжы ад Дзвіны да Збруча знайшлася толькі адна вёска, якая выказалася за далучэнне да дзяржавы Саветаў, хоць і з той вёскі (Ліпені пад Радашковічамі) польская дэлегацыя атрымала пазней заявы (139 подпісаў), якія выказваліся за Польшчу". Да гэтага архіўнага дакумента прыкладзены дадатак з пералікам усіх населенных пунктаў беларуска-ўкраінска-расійска-польскага памежжа, што выказалі жаданне далучыцца да Польшчы. Гэты дакумент — яскравае сведчанне таго, якія былі рэальныя настроі насельніцтва памежных раёнаў Беларусі, Украіны і РСФСР у канцы 1923 г., пасля двух с паловай гадоў жыцця пры Рыжскім міры.

У сваіх пошуках знайсці нешта альтэрнатыўнае гэтаму „плебісцыту" на карысць Польшчы ўдалося знайсці адзін дакумент. Гэта рапарт начальніка штаба 2-й арміі падпалкоўніка А. Бабкоўскага ў 2-гі аддзел Галоўнага камандавання польскай арміі аб жаданні сялян Нясвіжскага павета далучыцца да БССР ад 27 ліпеня 1921 г. У ім паведамлялася, што „3 деревни Несвижского повета, а именно: *Солтаковщизна, Грибовщизна и Лисуны*, обратились к Советскому правительству с просьбой присоединить названные деревни к России. Этот факт является результатом агитации, ведущейся советскими агентами, засланными в польские пограничные районы в связи с началом работы Пограничной комиссии". Прычынай жадання далучэння да Расіі была незадаволенасць мясцовага насельніцтва прыгаворамі польскіх судоў, якія датычыліся самавольнай парубкі лесу, увозу сена з чужых лугоў і т.п., дзе віна мясцовага насельніцтва была толькі частковай, бо яно рабавала тое, што не паспелі забраць бальшавікі[3].

Дакументы падзяляюць амаль два з паловай гады. Напэўна, гэтага тэрміну аказалася дастаткова для таго, каб зрабіць выбар і пераканацца, які лад лепшы. Да таго ж, колькасць насельніцтва, якое хацела далучыцца да Польшчы, аказалася ў дзесяткі разоў большай, чым жадаючых далучыцца да Расіі, калі параўноўваць колькасць населеных пунктаў.

Яшчэ адна цікавая рэч. Для жыхароў сучаснага Мінска, якія маюць дачныя ўчасткі ў яго прыгарадах, у тым ліку для мяне, пэўным адкрыццём было тое, што ў гэтым спісе фігуруюць добра знаёмыя населеныя пункты з мінскіх заходніх ваколіц: Радашковічы, Ракаў, Заслаўль, Ратамка, Плешчаніцы, Хмелеўка, Анусіна і інш. Усе яны, можна сказаць, „здрадзілі" Саветам, выказаўшы жаданне, дарэчы небяспечнае і пад страхам пакарання, далучыцца да Польшчы. У гэтым спісе знаходзяцца таксама населеныя пункты з расійскага боку (Пінскі павет). Гэта жаданне не было рэалізавана, паколькі запатрабавала б істотных карэкціровак мяжы Польшчы з БССР, УССР і РСФСР. Таксама невядома, наколькі польская

[3] *Документы и материалы по истории советско-польских отношений*, т. IV: *(апрель 1921 г. — май 1926 г.)*, Москва 1966, с. 42.

дыпламатыя выкарыстала гэты прапольскі „плебісцыт” на міжнароднай арэне, у тым ліку ў Лізе Нацый, пра што казаў Л. Васілеўскі ў лісце да К. Скірмунта.

Апошні дакумент вымушае па-іншаму ацаніць два папярэднія. У святле масавых заяў жыхароў Беларусі і Украіны (незалежна ад нацыянальнасці і канфесіі) далучыцца да Польшчы палітычныя высновы і ацэнкі Польскай нацыянальнай рады беларускіх земель наконт усходніх крэсаў выглядаюць не так ужо „імперыялістычна” ці „асімілятарска”, як гэта можна было ўспрыняць у часы савецка-польскай вайны. Неаднаразова агучаныя тымі ж самымі польскімі землеўласнікамі, што жылі ў Беларусі, словы аб роднасці і блізкасці крэсаў нечакана адгукнуліся ў канцы 1923 г. тысячамі заяў ад сялян і прадстаўнікоў іншых сацыяльных слаёў аб жаданні вярнуцца пад уладу гэтых жа самых польскіх паноў і памешчыкаў, якой так запалохвалі бальшавікі.

Дакументы выяўлены падчас навуковых паездак у Польшчу ў рамках стыпендыі Касы Мяноўскага (2008 г.) і даследчага праекта Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Рэспублікі Беларусь „Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914-1991 гг.): зб. дак. і матэрыялаў у 4-х тамах”. Пераклад з польскай на беларускую мову зроблены А. В. Кузьмічом і У. Е. Снапкоўскім. Навуковая рэдакцыя перакладу, уступны артыкул і каментарыі выкананы У. Е. Снапкоўскім.

**№ 1**

**Палітычныя высновы Польскай нацыянальнай рады беларускіх зямель аб літоўска-беларускіх крэсах***

Варшава ...................................................................... Сакавік 1919 г*.

Прыведзеныя вышэй дадзеныя больш чым дастаткова паказваюць, што пытанне будучай дзяржаўнай арганізацыі на тэрыторыях Літвы і Белай Русі з'яўляецца справай вельмі складанай і цяжкай для вырашэння.

Перш за ўсё трэба сказаць, што ані Літва, ані тым больш Беларусь не ў стане стварыць асобныя самастойныя дзяржаўныя адзінкі і весці кіраванне ўласнымі сіламі. Этнаграфічная Літва, якая складае толькі 1/6 частку краю, сапраўды мае тэрыторыю з межамі, якія лёгка вызначыць і на якой кампактна пражывае літоўскае насельніцтва з асобнай мовай і абуджаным пачуццём асобнай культуры і нацыянальнага адзінства. Што ж датычыцца Беларусі, то вялікія абшары гэтага краю на паўночным усходзе і на захадзе маюць значную большасць насельніцтва бясспрэчна

* Публікуецца заключэнне кнігі *Палітычныя высновы*, выдадзенай Польскай нацыянальнай радай беларускіх зямель.

* Дата публікацыі.

польскага, рэшта ж краю прадстаўляе сабой нацыянальную мазаіку са значнай перавагай беларускага насельніцтва, аднак гэта насельніцтва не стварыла сабе такога ўнутранага адзінства і не мае такога развітага нацыянальнага пачуцця, каб на такой аснове можна было будаваць нацыянальную дзяржаву. Інтэлігенцыю на ўсёй тэрыторыі краю, калі не лічыць кагорты спецыяльна прысланых расійскіх чыноўнікаў, складаюць выключна палякі, беларусы прафесійнай інтэлігенцыі ў сваім складзе не маюць увогуле, літоўцы — толькі адзінкі. Такім чынам, ні літоўцы, ні беларусы не маюць у сваім складзе дзяржаўна-творчых элементаў: да гэтага прывяло вельмі шмат прычын, якія вынікаюць з развіцця гісторыі. Гэты край па сутнасці з XV ст. перастаў ужо жыць уласным дзяржаўным жыццём, апошнія ж 130 гадоў панавання Расіі былі перыядам бязлітаснай і паслядоўна праводзімай русіфікацыі, якая трымала народныя масы ў цемры, знішчальнай для духу і нацыянальнага пачуцця гэтага насельніцтва.

Вядомай з'яўляецца з часоў вайны канцэпцыя немцаў па стварэнні т.зв. „рандштатаў", г.зн. шэрагу нацыянальных дзяржаў на заходніх тэрыторыях, адарваных ад Расіі: немцы такім чынам імкнуліся пашырыць сваю экспансію на ўсход з захаваннем выгляду вызваліцеляў прыгнечаных народаў, здабыць там тэрыторыі для каланізацыі, эксплуатаваць край у сваіх мэтах і ўвогуле аказваць вырашальны ўплыў на гісторыю будучых стагоддзяў. Таму ў першую чаргу была абвешчана літоўская дзяржава, а потым украінская, дарэчы да праектаванай квазіэтнаграфічнай літоўскай дзяржавы была далучана не толькі Віленшчына, якая апрача Троцкага павета мае працэнт літоўскага насельніцтва менш чым мізэрны, але нават і Гродзеншчына, якая нават і гэтага маленечкага працэнту не мае. Штучна ўтвораны немцамі літоўскі ўрад пад назвай „Тарыба"[4] быў і заставаўся ўвесь час генералам без войска. Тарыба не толькі сярод усяго насельніцтва, але нават сярод карэнных літоўцаў знайшла замест падтрымкі варожыя адносіны ці ў лепшым выпадку абсалютнае раўнадушша. Тарыбе ні разу не ўдалося ўзняцца вышэй узроўню службоўца з ніз-

[4] Тарыба — Нацыянальны савет, які з'яўляўся вярхоўным органам улады ў Літве, створаным у верасні 1917 г. пры ўдзеле нямецкіх акупантаў. 11.XII.1917 г. урадам Тарыбы была падпісана Дэкларацыя з Германіяй, а 16.II.1918 г. — так званы акт аб незалежнасці Літвы. Летам 1918 г. Тарыба абвясціла Літву манархіяй на чале з нямецкім прынцам Вільгельмам Урахам. 11.XI.1918 г. па распараджэнні Германіі ўтвораны літоўскі ўрад на чале з прыхільнікам пранямецкага палітычнага курсу Аўгусцінсам Вальдэмарасам. Але ўжо 8.XII.1918 г. у Вільні створаны часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад, які 16.XII.1918 г. абвясціў у Літве Савецкую ўладу, а кайзераўскую Тарыбу з яе саветам міністраў скінутай і па-за законам. Літоўская Тарыба стала на чале контррэвалюцыйных сіл, выступаўшых супраць Савецкай улады. Праіснавала да склікання Устаноўчага сходу (май 1920 г.).

ка схіленай галавой, які слепа выконвае волю свайго пана, якім быў немец. Літоўскі народ застаўся глухім да шумных заклікаў немцаў да дзяржаўнага жыцця, а тое польскае насельніцтва, якое павінна было быць уключана ў гэту літоўскую дзяржаву, збірала сотні тысяч подпісаў і слала іх у Варшаву з пратэстам супраць каварнай працы немцаў і гарачым запэўненнем, што хоча быць з Польшчай.

І якая ж у рэчаіснасці была б будучыня гэтай літоўскай дзяржаўкі: уціснутая вузкім клінам паміж суседнімі вялікімі дзяржавамі — Расіяй і Германіяй — яна была б арэнай бесперапынных інтрыг і захопніцкіх намераў з іх боку, нарэшце ў кожнай хвілі яна магла б быць праглынутай без аніякай магчымасці супраціву, як слабая і па ваенных прычынах, і па гаспадарчых. Верагодней за ўсё аднак Літва як этнаграфічная дзяржава аказалася б пры дапамозе літоўцаў, пражываючых ва Усходняй Прусіі, пад уплывам немцаў, якія б хутка здолелі падпарадкаваць гэты край, значна узмацніліся б, накіроўваючы зброю рэваншу ў паразуменні з Расіяй спачатку супраць Польшчы, а потым і супраць дзяржаў Заходняй Еўропы.

Падобныя высілкі, якія прадпрымаліся ў адносінах да Літвы, немцы рабілі таксама і ў адносінах да Белай Русі; тут аднак іх стараннi не былі ў стане прывесці нават да ўзроўню той фікцыі, якая ў Літве, як бы там ні было, усё ж была створана: мэты не ўдалося дасягнуць нават у зародку. Расійская рэвалюцыя спачатку дала імпульс да склікання Беларускай Рады[5], бальшавікі яе аднак разагналі, пры немцах яна ізноў пачала збірацца, аднак Рада ўвесь час была чужародным элементам сярод беларускага насельніцтва, была абсалютна нежыццяздольнай: сваю дзейнасць яна абмежавала ўсяго толькі да шумнага дэкларавання аб утварэнні самастойнай Беларускай народнай рэспублікі[6] і аб нацыяналізацыі зямлі. На-

[5] Маецца на ўвазе Вялікая беларуская рада (ВБР) — каардынацыйны цэнтр беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў кастрычніку-снежні 1917 г. Складалася з дэлегатаў ад беларускіх грамадска-палітычных, культурна-асветных, бежанскіх, вайсковых арганізацый. Пастаянна дзеючым органам ВБР быў выканаўчы камітэт з 24-х чалавек, у тым ліку Вацлаў Адамовіч (старшыня), Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун) і Аркадзь Смоліч (намеснікі старшыні). Выканаўчы камітэт падзяляўся на аддзелы ў адпаведнасці з галінамі кіравання. Вялікая беларуская рада разглядала сябе як зародак вышэйшага органа дзяржаўнай улады будучай аўтаномнай Беларусі ў межах Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Разам з Цэнтральнай беларускай вайсковай радай вяла работу па стварэнні беларускага нацыянальнага войска. Выступіла з ініцыятывай па скліканні ў Мінску Усебеларускага з'езда 1917 г.

[6] Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) — беларуская дзяржава, абвешчаная ў 1918 г. Ідэя БНР сфарміравана на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 г. Канстытуцыйны лад Беларускай Народнай Рэспублікі закладваўся Другой Устаўной граматай, якая была прынята Выканкамам Рады Усебеларускага з'езда 9.III.1918 г. Краіна фармальна абвяшчалася Беларускай Народнай Рэспублікай, але ў гэтай грамаце нічога не гаварылася пра незалежнасць Беларусі і яе адно-

род пазастаўся глухі, трываў пад нямецкім панаваннем так, як трываў пад расійскім, г.зн. пасіўна і апатычна, думка пра стварэнне нейкай беларускай дзяржавы была для яго чымсьці абсалютна чужым, незразумелым, нерэальным. Апрача таго, Літва і Беларусь не з'яўляюцца самадастатковым краем, які быў бы ў стане з уласнага багацця і фінансавых сродкаў пакрыць кошты ўтрымання асобнага дзяржаўнага апарату і абароны краіны, дзяржава загадзя была б відавочным банкрутам. На вышэйшым узроўні праблема дзяржаўнай арганізацыі Літвы і Белай Русі зводзіцца перш за ўсё да вырашэння прынцыповага пытання: да якой суседняй дзяржавы гэтыя краіны павінны быць далучаны, г.зн. ці павінны заставацца разам з Расіяй, ці павінны быць уключаны ў арбіту польскай дзяржаўнасці. Адказ не будзе цяжкі, паколькі абсалютна ўсе фактары сведчаць на карысць апошняга варыянту вырашэння пытання.

Аднак перш за ўсё сусветная вайна выказала вялікую патрэбу стварэння вялікай і моцнай Польшчы, каб гэта Польшча была ў стане супрацьстаяць адвечнаму свайму ворагу Германіі, якая незалежна ад формы праўлення заўсёды будзе праводзіць палітыку „Дранг нах Остэн", захопніцкую палітыку насілля і ўціску, якая небяспечна і адвечна загражае спакою і раўнавазе Еўропы. Такая Польшча павінна таксама быць моцнай і адносна свайго суседа на ўсходзе — Расіі, якая хоча распаліць сусветны пажар і знішчыць усе культурныя здабыткі чалавецтва так, як ажыццявіла гэту гераstrатаву справу ў сябе. Гэта Расія сёння зусім адкрыта пагражае, што хоча праз цела Польшчы злучыцца з Германіяй і сумеснымі з ёй намаганнямі, абвясціўшы барацьбу дзяржавам Антанты, не дапусціць рэалізацыі гэтых узнёслых лозунгаў пра адбудову свету, якія абвясцілі дэмакратыі Захаду. Расія заўсёды была і застанецца натуральным саюзнікам Германіі і раздзяленне гэтых вялікіх дзяржаў неабходна для спакою Еўропы.

Польшча цягнецца вузкім пасам з поўдня на поўнач і сама не ў стане сваімі грудзямі стварыць абарочнага валу такой моцы і сілы, які не-

сіны з іншымі дзяржавамі. Акт ад 9.III.1918 г. не быў прызнаны і Германіяй, якая разглядала Беларусь як акупаваную частку Расіі. Шэраг дзеячаў БСГ не былі задаволены Другой Устаўнай граматай, што прывяло да прыняцця 25.III.1918 г. Трэцяй Устаўнай граматы, якой Беларусь абвяшчалася незалежнай і свабоднай дзяржавай. Скасоўваліся старыя дзяржаўныя сувязі і быў узяты курс на супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі. Урад БНР таксама дамагаўся міжнароднага прызнання Беларускай Народнай Рэспублікі. Былі накіраваны дыпламатычныя місіі ў шэраг дзяржаў. Кіраўнікі БНР разлічвалі на падтрымку знешніх сіл, але па розных прычынах не атрымалі яе ні ад Германіі, ні ад Польшчы, ні ад краін Антанты. 12.X.1925 г. на Другой Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне група кіруючых дзеячаў Рады БНР прыняла рашэнне аб самаліквідацыі „ўрадавых органаў" БНР і прызнанні Мінска адзіным цэнтрам беларускага палітычнага і культурнага руху.

абходны для адгароджвання Расіі ад Германіі. Тую сілу і моц для выканання гэтай вялікай місіі могуць даць Польшчы толькі ўсходнія крэсы, г.зн. тэрыторыі Літвы і Белай Русі, якія ў часы падзелаў у канцы XVIII ст. былі адарваны Расіяй ад яе і без якіх Польшча стратэгічна не будзе прадстаўляць рэальнай сілы. Гэтыя тэрыторыі між іншым павінны быць уратаваны для цывілізацыі Захаду, з якім на працягу чатырох стагоддзяў, дзякуючы прыналежнасці да Польшчы, былі звязаны. Далучэнне гэтых тэрыторый да Расіі, асабліва падатнай Беларусі, азначала б канчатковае падданне іх русіфікацыі, край па-ранейшаму знаходзіўся б у цемры і невуцтве, не было б клопату аб эканамічным развіцці, край адным словам зрабіўся б абдзеленай ва ўсім і знішчаемай расійскай правінцыяй. Беларус жа не з’яўляецца расійцам, мае нават да яго нацыянальную непрыязнь, называе яго не інакш як „маскалём” ці „кацапам”. Расіец жа заўсёды будзе лічыць Беларусь чужым заваяваным краем, які можна толькі эксплуатаваць, ніякіх інвестыцый у гэтым краі, у адрозненне ад Польшчы, ён рабіць не будзе, бо мае значна больш багатыя і значна больш цікавыя і блізкія яму тэрыторыі, якія ўкладзеныя сродкі звернуць непараўнальна хутчэй і з непараўнальна большым прыбыткам.

У імя гэтых высакародных ідэй, ажыццяўленне якіх з’яўляецца ганаровым заданнем мірнай канферэнцыі і ў імя якіх змагаліся дзяржавы Антанты, Літва і Беларусь павінны атрымаць страчаную свабоду і ўсе ўмовы да культурнага і нацыянальнага развіцця, мець магчымасць уяўляць сабой як моцны эканамічны, так і палітычны фактар. Дасягнуць жа ўмоў для гэтага Літва і Беларусь могуць толькі ў сувязі з Польшчай і толькі такое вырашэнне справы забяспечыць дабрабыт гэтага краю. Усходняя мяжа павінна ісці ўздоўж граніц польскай дзяржавы паводле стану да 1772 г., бо яна амаль супадае з этнаграфічнай граніцай рассялення беларускага насельніцтва і мае вельмі даўнюю гістарычную традыцыю, памяць пра якую сярод мясцовага насельніцтва не загінула і па сённяшні дзень. Усялякае перасоўванне ўсходняй мяжы на захад было б свавольнай і цяжкай для абгрунтавання камбінацыяй, якая, распалавіньваючы Беларусь і пакідаючы частку яе пры Польшчы, а другую пры Расіі, была б па прычыне такога наўмыснага падзелу крыўдай для беларускага насельніцтва, урэшце ствярала б ядро і падатную глебу для распальвання варожасці і ўтварэння з расійскага боку беларускай ірэдэнты. Беларусь як тэрыторыя бясспрэчна ўяўляе сабой цэласнасць не толькі этнічную, але таксама камунікацыйную і гаспадарчую, якую прынцыпова, улічваючы будучыню, не трэба парушаць.

Ідэя ўніі Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай саспела ўжо ў канцы XIV ст. як гістарычная неабходнасць для гэтых абедзвюх дзяржаў апоры на саміх сябе для самаабароны, з аднаго боку, супраць сістэма-

тычнага з часоў Карла Вялікага[7] націску германцаў на ўсход, а, з другога боку, супраць націску на захад маскоўскіх цароў.

Унію ўкаранаваў Грунвальд у 1410 г., калі на 300 гадоў была знішчана сіла рыцараў Тэўтонскага ордэна, айца сённяшняй Прусіі. Патрэбнасць пастаяннай барацьбы з маскоўскім царствам узмацніла вузы гэтай вялікай уніі, пакуль рашэннем Чатырохгадовага сейма[8] Польшча і гістарычная Літва не злучыліся ў адну дзяржаву. Гвалт над Польшчай у выніку падзелаў помсціў на працягу ўсяго XIX ст. усёй Еўропе, стаўшы прычынай нічым ужо не стрыманага ўзросту нямецкай і расійскай магутнасці.

Таму патрэбна адрадзіць супольнае дзяржаўнае жыццё Польшчы з гістарычнай Літвой у форме, прыдатнай для сучасных умоў, якая дае магчымасць свабоднага развіцця культур нацыянальнасцей, што насяляюць гэты край, і моцнага, незалежнага ад Германіі і Расіі, гаспадарчага і вайсковага развіцця ўсёй дзяржавы. Сёння цяжка вызначыць усе дэталі гэтага суіснавання, трэба перш за ўсё гэты край ратаваць і вырваць з пут расійскага бальшавізму, які яго апанаваў; калі кангрэс вызначыць межы будучай Польскай дзяржавы, разам з тымі палітычнымі арганізмамі, якія будуць уключаны ў арбіту дзяржаўнасці, калі наступіць супакаенне краіны, Польшча зможа арганізаваць формы суіснавання на прынцыпах узаемнага паразумення з насельніцтвам Літвы і Беларусі ў імя высакародных ідэй, якія абвясціла Люблінская ўнія: вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі.

На ўсходзе Еўропы паўстане тады вал супраць імперыялізму Расіі, аб'яднананая моцная Польшча паспяхова будзе супрацьстаяць нямецкаму захопніцтву і ненасытнасці. Польшча ў саюзе і пры падтрымцы вялікіх дзяржаў Антанты як раўнапраўны член Лігі Нацый будзе барацьбітом і прыхільнікам такіх вялікіх лозунгаў, як роўнасць і шчасце людзей. Раўнавага новай Еўропы будзе забяспечана.

Пераклад з польскай мовы:

*Kresy Litewsko-Białoruskie Rzeczypospolitej Polskiej. Rzecz przyjęta i wydana przez Polską Radę Narodową Ziem Białoruskich*, Warszawa 1919, s. 54-62.

[7] Карл Вялікі (742-814) — кароль франкаў, лангабардаў, герцаг баварскі, пасля захопу Італіі каранаваны як імператар Рымскай імперыі. Паходзіў з дынастыі Каралінгаў. Перажыў двух сваіх законных сыноў і пакінуў сталец трэцяму — Людовіку Набожнаму. Імперыя Карла распалася ў 843 г., пасля падпісання Вердэнскага дагавора.

[8] Чатырохгадовы Сейм Рэчы Паспалітай 1788-1792 гг. — вялікі вальны Сейм, які прыняў шэраг важных рэформ, накіраваных на захаванне адзінства і самастойнасці Рэчы Паспалітай, у тым ліку Майскую канстытуцыю.

## № 2

## Вытрымкі з кнігі „Рыжская канферэнцыя і наша ўсходняя граніца”, выдадзенай Польскай нацыянальнай радай беларускіх зямель

ВАРШАВА ........................................................................ 1920 г[*].

*Прадмова*

Мы выступаем супраць усходняй граніцы, прынятай на мірнай канферэнцыі ў Рызе і адобранай сеймам[9].

Ці не пачуем мы ў свой адрас абвінавачванняў, што мы з'яўляемся барацьбітамі за пройгрышную справу, што выступаем супраць таго, што ўжо з'яўляецца здзейсненым фактам і на змену чаго не варта зусім спадзявацца?

Калі так, то наша прысутнасць у радах барацьбітоў за пройгрышную справу з'яўляецца рэччу, якая не можа нас зганьбіць. Рады барацьбітоў за пройгрышную справу ўзначальвае Рэйтан[10] і тыя, хто пратэставаў супраць падзелу, як навагрудскі дэпутат Самуэль Корсак[11], віленскі дэпутат Вільчэўскі[12], мінскі дэпутат Багушэвіч[13] і іншыя. Барацьб-

[*] Дата публікацыі

[9] Маецца на ўвазе Дагавор аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру паміж РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польшчай — з другога, ад 12.X.1920 г.

[10] Рэйтан (Rejtan) Тадэвуш (1742-1780) — удзельнік Барскай канфедэрацыі, дэпутат Сейма Рэчы Паспалітай ад Навагрудскага ваяводства ВКЛ. На першых пасяджэннях вальнага Сейма 1773 г., скліканага для зацвярджэння рашэнняў трох дзяржаў аб падзеле Рэчы Паспалітай, Рэйтан разам з іншым дэпутатам ад Наваградскага ваяводства Самуэлем Корсакам адкрыта выступіў супраць здрадніцтва Адама Панінскага, маршалка прарасійскай канфедэрацыі. Іх змаганне на Сейме працягвалася з 19 па 22 красавіка 1773 г., да таго часу, пакуль Станіслаў Аўгуст пад пагрозай расійскага пасла ўвесці войскі ў Варшаву і дашчэнту разбіць горад і яго наваколле, быў вымушаны, як і большасць паслоў, далучыцца да канфедэрацыі. Пасля гэтага ў працах Сейма, які далучыўся да прарасійскай канфедэрацыі, Т. Рэйтан і С. Корсак удзелу ўжо не прымалі. Апошнія гады свайго жыцця правёў у радавым маёнтку Грушаўцы пад Ляхавічамі, дзе памёр у 1780 г., скончыўшы жыццё самагубствам. З-за гэтага не мог быць пахаваны на могілках. Магіла яго да гэтага часу не знойдзеная.

[11] Корсак (Korsak) Самуэль (1745-1794) — член Літоўскай Найвышэйшай кіруючай рады. Разам з Т. Рэйтанам і Станіславам Малахоўскім быў ініцыятарам спроб недапушчання пачатку пасяджэнняў Сейма 17.IV.1773 г., які адобрыў першы падзел Рэчы Паспалітай. Загінуў на прадмесці Варшавы Празе ў 1794 г. у баі супраць расійскіх войскаў.

[12] Вілчэўскі (Wilczewski) Францішак (1736-1816) — дэпутат Чатырохгадовага Сейма Рэчы Паспалітай ад Віленскага ваяводства. Падпісаў Генеральную канфедэрацыю Сейма.

[13] Багушэвіч (Bohuszewicz) Станіслаў (1751-1817) — дэпутат Сейма 1773-1775 гг. ад Мінскага ваяводства, дэпутат Літоўскага трыбунала. Разам з Т. Рэйтанам і С. Корсакам выступаў супраць памілавання маршалка Сейма А. Панінскага.

бітамі за пройгрышную справу былі Касцюшка[14], Траўгут[15], Сташыц[16], Калантай[17], Махнацкі[18], уся наша гісторыя пасля падзелаў гэта шэраг прайграных бітваў. Аднак гэтыя прайграныя бітвы стваралі той маральны нацыянальны капітал, дзякуючы якому, калі катастрофа здарылася з дзяржавамі-ўдзельніцамі падзелаў, пачала адраджацца наша дзяржаў-

[14] Касцюшка (Kościuszko) Анджэй Тадэвуш Банавентура (1746-1817) — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г., нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі. У 1776-1783 гг. добраахвотна ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША. У 1784 г. вярнуўся на радзіму з намерам служыць у войску ВКЛ. У 1789 г. прызначаны генерал-маёрам у кароннае войска, камандзір брыгады. Удзельнік вайсковых акцый супраць Таргавіцкай канфедэрацыі (1792). Пасля каралеўскага ўступлення ў Таргавіцкую канфедэрацыю ў знак пратэсту выйшаў у адстаўку. У эміграцыі з 1792 г. Галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі і начальнік паўстання 1794 г. У бітве пад Мацяёвіцамі (10.X.1794) быў узяты ў рускі палон і трапіў у Петрапаўлаўскую крэпасць. Пасля вызвалення з палону імператарам Паўлам I жыў у ЗША, Францыі, Швейцарыі, не граў значнай палітычнай ролі. Адносячыся да Напалеона як да тырана, катэгарычна адмовіўся ад усялякага супрацоўніцтва з апошнім, хоць у 1806 г. яму прапаноўвалася падняць паўстанне ў Польшчы і ўзначаліць Варшаўскае герцагства.

[15] Траўгут (Traugutt) Рамуальд (1826 1864) — польскі генерал, удзельнік паўстання 1863-1864 гг., адзін з яго кіраўнікоў. З 1845 г. служыў у расійскай арміі, удзельнік Крымскай вайны (1853-1856). У 1862 г. у чыне падпалкоўніка, пайшоў у адстаўку. Пасля пачатку паўстання сфарміраваў і ўзначаліў Кобрынскі паўстанцкі атрад. Атрымаў чын генерала, быў прадстаўніком паўстанцкіх улад за мяжой. У кастрычніку 1863 г. кіраўнік Нацыянальнага ўрада ў Варшаве і фактычна дыктатар паўстання. Арыштаваны 30.III.1864 г. Паводле прыгавору ваеннага суда павешаны ў Варшаўскай цытадэлі.

[16] Сташыц (Staszic) Станіслаў (1755-1826) — польскі філосаф, вучоны, палітычны дзеяч, пісьменнік, мецэнат. Падчас Чатырохгадовага Сейма выступаў за лінію рэформ, падтрымліваў Майскую канстытуцыю 1791 г. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай прысвяціў сябе працы па паляпшэнню гаспадарчага развіцця польскіх зямель. Даследаваў Карпаты, напісаўшы работу *Аб Карпацкай зямлі*. Быў стваральнікам адной з першых геалагічных карт.

[17] Калантай (Kołłątaj) Гуга (1750 1812) — палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, філосаф, педагог, публіцыст. Актыўны дзеяч Адукацыйнай камісіі. З 1787 г. рэфэрэндары ВКЛ, пераехаў у Варшаву, дзе актыўна заняўся палітычнай дзейнасцю, згуртаваў кола сваіх прыхільнікаў, т.зв. „Кузня Калантая”. Лідар рэфарматарскай плыні ў час працы Чатырохгадовага Сейма 1788-1792 гг. Адзін з аўтараў Канстытуцыі 3 Мая 1791 г. Падтрымліваў ідэю цэнтралізацыі Рэчы Паспалітай праз больш цеснае аб’яднанне ВКЛ з Польшчай. Адзін з вядучых ідэолагаў, потым кіраўнік „левага” („якабінскага”) крыла ў паўстанні 1794 г. Пасля паражэння паўстання быў у аўстрыйскім зняволенні (1794-1802). У 1802-1806 гг. жыў на Валыні. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве. Пакінуў багатую філасофскую і публіцыстычную спадчыну.

[18] Махнацкі (Mochnacki) Маўрыцы (1803 ці 1804-1834) — польскі філосаф і палітычны дзеяч. Адзін з арганізатараў паўстання 1830-1831 гг. Апошнія гады жыцця правёў у Францыі.

насць. На жаль, шмат з гэтага капіталу разбазарылі тыя, хто, апасаючыся пройгрышу, пагаджаліся з лёсам, нават найцяжэйшым, адмаўляліся ад нашай гістарычнай спадчыны, ад нашых усходніх зямель, жадаючы такім коштам атрымаць пагадненне з Расіяй. Гэта зараз нам помсціцца. Адпомсцілася ў Рызе на мірнай канферэнцыі.

Там былі прадстаўнікі ўсіх партый, і гэта таксама мела фатальныя вынікі для справы. Прадстаўнік кожнай партыі адчуваў, што не панясе адказнасці перад грамадскай думкай, што яго пазіцыя не будзе паддадзена крытыцы з боку іншых партый, бо гэтыя іншыя праз сваіх прадстаўнікоў санкцыяніравалі супольнае рашэнне. Памяталі толькі пра партыі, забыліся пра народ, да дзяржаўнай думкі партыйцы яшчэ не дайшлі. Усё адбывалася ў партыйным ключы: дзякуючы чаму на чале дэлегацыі стаў чалавек, які, нягледзячы на тое, што яму нельга адмовіць у здольнасцях, не ведаў і не пазнаёміўся са справамі нашага Усходу. Партыйны ключ прывёў у Рыгу ў якасці эксперта пана Перля[19], яўрэясацыяліста, для якога ўся наша дзяржаўная традыцыя і культура на Усходзе з'яўляецца альбо пустым гукам, альбо прадметам нянавісці. Галоўны эксперт праф. Ромер[20] перастаў быць прыхільнікам усходняй мяжы Нарадовага Камітэта[21], стратэгічнай мяжы Фоша[22], калі партыя, на

[19] Перль (Perl) Фелікс (псеўд. Рэс; 1871-1927) — палітычны дзеяч і публіцыст, адзін з заснавальнікаў ППС і ідэолаг яе правай плыні. З 1902 г. шмат гадоў член ЦРК, а потым ЦВК ППС; у 1924-1926 гг. старшыня ЦВК ППС; у 1920-1921 гг. член польскай дэлегацыі на мірнай канферэнцыі ў Рызе; у 1901-1904 гг. і 1917-1927 гг. галоўны рэдактар „Работніка".

[20] Ромер (Romer) Эўгеніюш (1871-1954) — выдатны польскі географ, картограф і геапалітык. З 1911 г. прафесар Львоўскага ўніверсітэта, пазней Познаньскага і Кракаўскага ўніверсітэтаў. У 1916 г. пачаў працаваць над вялікім статыстычным і геаграфічным атласам Польшчы, які меў вялікае значэнне для ўстанаўлення меж Другой Рэчы Паспалітай. Член польскай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919-1920 гг. У 1921 г. стварыў Картаграфічны інстытут. Падчас акупацыі Львова нацыстамі схаваўся ў манастыры, што верагодна выратавала яму жыццё. Пазней працаваў саветнікам польскага эмігранцкага ўрада. Удзельнік Варшаўскага паўстання 1944 г.

[21] Польскі нацыянальны камітэт (ПНК) — польскі ўрад у эміграцыі ў час Першай сусветнай вайны. Створаны 15.VIII.1917 г. у Лазане (Швейцарыя) групай польскіх эмігрантаў. Складаўся пераважна з членаў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі і некаторых іншых партый. Старшыня — Раман Дмоўскі. Імкнуўся стварыць з дапамогай дзяржаў Антанты незалежную польскую дзяржаву. У верасні-лістападзе 1917 г. прызнаны Францыяй, Вялікабрытаніяй, Італіяй і ЗША. Пачаў стварэнне польскага войска ў Заходняй Еўропе. У пачатку 1919 г. дамовіўся з прыхільнікамі Ю. Пілсудскага аб стварэнні кааліцыйнага ўрада Польшчы на чале з членам ПНК Ігнацы Падарэўскім. Распушчаны ў жніўні 1919 г.

[22] Фош (Foch) Фердынанд (1851-1929) — французскі ваенны дзеяч. Маршал Францыі (1918), брытанскі фельдмаршал (1919), маршал Польшчы (1923). Член Французскай акадэміі (з 1918). Скончыў Вышэйшую ваенную акадэмію (у 1895-1900 ад'юнкт, прафесар, у 1908-1911 начальнік акадэміі). У Першую сусветную вай-

якую ён абапіраўся, змяніла сваё становішча. Па партыйных прычынах не былі запрошаны ў якасці экспертаў і тыя, хто тэарэтычна і практычна ведалі той край, з якога паходзілі.

Партыйнасць раздзяляе і нашы дзяржаўныя ўстановы; мы ведаем напр. у Міністэрстве замежных спраў міністра і двух яго наместнікаў, кожны з якіх належыць да іншай партыйнай групы. Партыі не даюць палітычнаму дзеячу магчымасці правядзення адзінага плана дзеянняў і захавання самастойнасці.

Сапега[23], улічваючы партыі, згубіў уласную лінію. На мітынгу 22 верасня 1918 г. кн. Сапега заклікаў: „не дазволім, каб вы разбазарылі нашу Бацькаўшчыну", і „мы хочам стаяць на крэсах, але нам цяжка будзе, калі вы пакінеце нас самім сабе". „Калі гэтыя крэсы не будуць належыць да Польшчы, яны будуць належыць да Расіі: tertium non datur*. Калі яны будуць належыць да Расіі, іх залье хваля бальшавізму, польскага насельніцтва там ужо не будзе. Яд расійскай атруты ўвальецца ў душы сялян, а польскасць зробіцца казкай мінуўшчыны. Таму момант зараз вельмі адказны, трэба як мага хутчэй гэтыя крэсы прывязаць да Польшчы назаўсёды". Але ж пры міністры замежных спраў Сапегу пастановай Рыжскай канферэнцыі значная частка гэтых крэсаў ад Польшчы была адрэзана.

Ці Рыжская дамова[24] ўсё ж утрымаецца? Ці бальшавікі адмовяцца ад захопніцкіх тэндэнцый? Ці тое, што здарылася ў Рызе, застанецца

ну камандаваў дывізіяй, корпусам, арміяй, групай армій „Поўнач". У 1917 г. начальнік Генштаба, у 1918 г. галоўнакамандуючы арміямі Антанты. Адыграў значную ролю ў перамозе саюзнікаў над кааліцыяй цэнтральных дзяржаў на чале з Германіяй. З 1919 г. старшыня Вышэйшага савета Антанты, адзін з арганізатараў ваеннай інтэрвенцыі супраць Савецкай Расіі. Аўтар ваенна-тэарэтычных работ, мемуараў. Маецца на ўвазе лінія, прапанаваная маршалам Ф. Фошам 18.VII.1919 г., каб размежаваць польскія і літоўскія войскі.

[23] Сапега (Sapieha) Еўстахі (1881-1963) — князь, буйны землеўладальнік, польскі палітычны дзеяч, дыпламат; у 1917 г. ад імя Рэгенцкага савета вёў у Берне перагаворы з прадстаўнікамі Польскага нацыянальнага камітэта; 5.XI.1918 г. прызначаны Рэгенцкім саветам прэм'ерам; адзін з арганізатараў дзяржаўнага перавароту 5.I.1919 г.; у 1919-1920 гг. польскі пасланнік у Лондане; у 1922 г. міністр замежных спраў, дэпутат Сейма ад т.зв. Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам.

* Трэцяга не дадзена (лац.).

[24] Гаворка зноў-такі ідзе пра вышэйзгадыны прэлімінарны дагавор ад 12.X.1920 г. Рыжскі мірны дагавор 1921 г. — мірны дагавор паміж Польшчай, з аднаго боку, і РСФСР і Украінскай ССР, з другога боку. Падпісаны 18.III.1921 г. у Рызе, дзе з верасня 1920 г. праходзілі мірныя перагаворы паміж Польшчай і савецкімі рэспублікамі. На перагаворы не былі дапушчаны беларускія прадстаўнікі, хаця ў прэамбуле дагавора Польшча і Савецкая Расія абавязаліся прызнаць незалежнасць Беларусі. Складаўся з 26 артыкулаў і 10 дадаткаў. Юрыдычна вызначыў усходнюю мяжу Польшчы і адначасова замацаваў падзел тэрыторыі Беларусі і Украіны, заходнія часткі якіх адыходзілі да Польскай дзяржавы, хаця Польшча абавязалася даць беларусам, рускім і ўкраінцам усе правы, якія забяспечвалі б сва-

нязменным? Ці няма ўжо сродкаў выпраўлення памылак, правядзення іншых граніц, альбо шляхам адмовы ад часткі золата, якое прыходзіцца на польскую долю, альбо шляхам прыняцця адпаведнай долі ў знешніх запазычаннях Расіі, калі прыйдзе ўрад, які ў адносінах да бальшавікоў гэтыя запазычанні прызнае?

Справа моцна сапсаваная, для нас быў створаны непрыязны прэцэдэнт. Не трэба ўжо было здрайцаў Паніньскіх[25]; не трэба было, каб дзейнічала сярод дзяржаў-удзельніц падзелаў сіла подкупу, не трэба было ўсяго таго, што дазволіла правесці падзелы, каб адрачыся нават ад тых зямель, якія так нядаўна былі ў польскім уладанні, рубяжы якіх абараняў польскі салдат. Тут патрэбна была толькі страта гістарычнай памяці, страта пачуцця дзяржаўных інтарэсаў, неўсведамленне таго, што дзяржава гэта не этнаграфія, гэта не толькі народ, але і тэрыторыя з гісторыяй.

Каб мець магчымасць паправіць зробленую памылку, мы павінны яе ясна сабе ўсвядоміць. Дадзеная брышура з'яўляецца працай для ўсведамлення зробленай памылкі.

боднае развіццё культуры, мовы і веравызнання (савецкія рэспублікі абавязаліся зрабіць тое ж у адносінах да палякаў, якія пражывалі на іх тэрыторыях). Бакі, што падпісалі дагавор, абавязаліся паважаць дзяржаўны суверэнітэт адзін аднаго, не ўмешвацца ва ўнутраныя справы, не патрабаваць кампенсацыі за страты, панесеныя ў часы вайны, даць грамадзянам поўную амністыю за палітычныя злачынствы. РСФСР і УССР абавязаліся вярнуць Польшчы ваенныя трафеі, вывезеныя са студзеня 1772 г., архівы, бібліятэкі і іншыя культурныя каштоўнасці, якія былі вывезены з польскай тэрыторыі ў гады 1-й сусветнай вайны. Польшча вызвалялася ад адказнасці за даўгі і іншыя абавязацельствы былой Расійскай імперыі. РСФСР абавязалася выплаціць Польшчы 30 млн. руб. золатам за ўклад апошняй у расійскую эканоміку. Адразу ж пасля падпісання дагавора дзяржавы, якія падпісалі яго, абавязаліся ўстанавіць дыпламатычныя адносіны. Дадаткі да дагавора рэгулявалі эканамічныя і прававыя пытанні. Фактычна дагавор быў несправядлівы, хаця дагаварныя бакі падкрэслівалі тое, што мір заключаецца на аснове супольнай добраахвотнай дамоўленасці.

25 Панінскі (Poniński) Адам (1732 ці 1733-1798) — князь, адзін з правадыроў Радамскай канфедэрацыі 1767 г., маршалак Сейма 1773-1775 гг., які адобрыў першы падзел Рэчы Паспалітай. Займаўся рабаваннем маёмасці забароненага законам ордэна езуітаў. У сувязі са сваім банкруцтвам прапанаваў свае паслугі кожнаму, хто заплаціць. Быў платным агентам расійскага пасольства ў Варшаве, за што ў 1790 г. быў прагавораны Чатырохгадовым Сеймам да выгнання і пазбаўлення ўсіх званняў. Аднак гэты прыгавор быў адхілены Таргавіцкай канфедэрацыяй.

Панінскі (Poniński) Адам (1758 ці 1759-1816) — князь, дэпутат Гродзенскага Сейма, удзельнік польска-расійскай вайны 1792 г. і паўстання Касцюшкі, сын зняслаўленага Адама Панінскага. У сувязі са спазненнем загаду не паспеў своечасова прыбыць на поле бітвы пад Мацяёвіцамі, за што быў несправядліва падазраваны ў здрадзе. Рэабілітаваны гісторыкамі пасля смерці.

## *Наша ўсходняя мяжа*[*]

Межы паміж Польшчай і Расіяй у 1772 г. не былі выпадковыя, іх стварыла гісторыя двух вялікіх, моцных палітычных арганізмаў, якія змагаліся адзін з адным, узаемна выцясняліся, імкнуліся да авалодання лініяй рэк, абарончымі і наступальнымі граніцамі.

Польска-расійскія граніцы працягнуліся даўжынёй 1 690 км, у тым ліку на памежныя рэкі прыходзілася 720 км, г.зн. 42,5%. Апрача памежных, былі яшчэ рэкі, якія знаходзіліся ў польскім валоданні недалёка ад мяжы і якія стваралі як бы абарончыя рэдуты; яны мелі даўжыню 630 км. Такім чынам, памежныя рэкі і лінія рэк каля мяжы складалі 1 350 км, г.зн. 80% усёй памежнай лініі.

Польска-расійская мяжа 1772 г. была адной з лепшых, якую можна было накрэсліць на раўніне, якая працягнулася ад Урала да Балтыкі, неперасечанай горнымі ланцугамі, а толькі больш менш вялікімі рэкамі.

Падзел 1772 г. перасунуў гэтую мяжу на захад. Польшча страціла тэрыторыі краю, якія ляжалі за Дзвіной, Друццю і Дняпром. Граніцы пасля першага падзелу пазбавілі Польшчу наступальных козыраў, але пакінулі ў яе руках заходнія берагі Дзвіны і Дняпра. Рачная мяжа Рэчы Паспалітай адносна павялічылася ў параўнанні да ўсёй памежнай лініі, якая складала каля 1 300 км, у тым ліку на рэкі Дзвіну і Днепр прыходзілася 1 250 км, г.зн. 96% памежнай лініі прыходзілася на рэкі. На сухапутную мяжу заставаўся толькі нязначны кут, які выпадаў паміж Дзвіной і Дняпром, кут перасечаны Бярэзіной, ракой глыбокай, хуткай, праслаўленай у гісторыі вайной.

Мяжа другога падзелу была накрэслена Расіяй, набліжалася да вертыкальнай лініі за выключэннем малога кавалка на поўнач ад Дзвіны і не апіралася на лінію рэк. Гэта была мяжа тых палякаў краю, якая з улікам вялікай перавагі польскага і каталіцкага насельніцтва, падавалася пакуль што Расіі набыткам, з якім трэба было пачакаць аж да засваення папярэдніх. Лінія другога падзелу набліжалася да пазнейшай лініі германскага фронту 1915-1917 гг. Гэта была лінія, якая выкарыстоўвала толькі на невялікім адрэзку палескія балоты, па меншай меры не стратэгічная, аднак абраная як лінія пазіцыйных баёў дзяржавай, якая дыспанавала надзвычайнымі тэхнічнымі сродкамі для будовы і ўмацавання акопаў і якая магла быць толькі кароткай лініяй фронту.

У сувязі з неразуменнем характару лініі нямецкіх акопаў у нас раўпаўсюдзілася думка, што лінія нямецкага фронту падыходзіць да памежнай лініі паміж Польшчай і Расіяй. Гэта вынікала з таго, што Савет абароны дзяржавы, праўда ў мінуту дэпрэсіі, калі бальшавіцкія войскі пе-

[*] Апушчаны табліцы і статыстычныя матэрыялы па асобных беларускіх губернях.

раможна рухаліся па нашых землях, выдаў дырэктыву для дэлегатаў мірнай канферэнцыі, каб за пункт выйсця прынялі лінію нямецкіх акопаў. У гэтым трэба шукаць генезіс памежнай лініі, прынятай мірнай канферэнцыяй у Рызе.

Нашы войскі вызвалілі ў 1919 г. значную частку зямель, адышоўшых да Расіі па падзелах, і ўстанавілі польскую ўладу на нашых усходніх землях аж да Бярэзіны і Дзвіны. Польскія войскі перайшлі Дзвіну і вызвалілі Польскія Інфлянты, але Польшча аддала іх Латвіі, не пакінуўшы сябе нават Дунабургскага павета разам з Дынабургам, дзе латышы складаюць мізэрную меншасць, павета, маючага вялікае для нас значэнне з улікам перадмаставога ўмацавання і чыгункі. Акрамя Польскіх Інфлянтаў мы кіравалі на працягу амаль цэлага года вызваленымі намі землямі, што былі часткай нашай гістарычнай спадчыны, землямі, якія з'яўляюцца польскімі па сваёй культуры, землямі, якія сваім грамадскім і эканамічным развіццём і найцэннейшай сваёй цывілізацыйнай першаасновай абавязаны Польшчы. Мы пачалі аднаўляць ніць, парваную паразамі падзелаў і расійскім уціскам, пад які трапілі цэлыя пакаленні. Потым прыйшоў бальшавіцкі напад. Калі бальшавікі адступалі, калі была магчымасць атрымання без вялікіх ахвяр усяго таго, што мелі некалькі месяцаў таму, уступілі з надзвычайнай легкадумнасцю вялізную і багатую Мінскую зямлю, задаволіўшыся толькі яе ўскраінамі. Мяжа, якая аддзяляе ад Польшчы значную частку таго, што мы лічылі нашай гістарычнай спадчынай, была праведзена без уліку стратэгічных, эканамічных і нацыянальных інтарэсаў.

У першай чвэрці мінулага стагоддзя неаднаразова разглядалася пытанне аб кампрамісным вырашэнні польска-расійскай спрэчкі шляхам вяртання Польшчы часткі тэрыторыі, адышоўшай да Расіі ў выніку падзелаў, па лініі мяжы, асновай якой былі б Дзвіна і Бярэзіна. У 1811 г. Аляксандр I[26] у лісце да Адама Чартарыйскага[27], імкнучыся перацягнуць палякаў на свой бок напярэдадні напалеонаўскай кампаніі, прапанаваў аддаць Польшчы, г.зн. далучыць да Варшаўскага герцагства часткі тэрыторый, што адышлі да Расіі па падзелах, да Дзвіны і Бярэзіны, а на поўдні Валынь, пакідаючы Расіі Украіну і Падолле.

У 1816 г. правадыр дзекабрыстаў Песцель[28] прапанаваў польскім рэвалюцыянерам польска-расійскую мяжу па Дзвіне, Уле і Бярэзіне.

26 Аляксандр I Паўлавіч (1777-1825) — імператар Расійскай Імперыі ў 1801-1825 гг.

27 Чартарыйскі (Czartoryski) Адам Ежы (1770-1861) — дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расійскай Імперыі, пісьменнік, міністр замежных спраў Расіі ў 1804-1806 гг. Намагаўся аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 г., у 1803-1824 гг. узначальваў Віленскую навучальную акругу, апякаў Віленскі ўніверсітэт, дарадчык цара Аляксандра I па польскіх пытаннях на Венскім кангрэсе 1814-1815 гг. Падчас паўстання 1830-1831 гг. узначаліў Нацыянальны ўрад, з 1831 г. у эміграцыі.

28 Песцель Павел (1793-1826) — кіраўнік Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў. Удзельнік Айчыннай вайны 1812 г. Удзельнік масонскіх ложаў, адзін са ства-

Вышэй упамянутыя межы мелі тую асаблівасць , што праходзілі пераважна па рэках.

Іншы характар мела граніца, праектаваная Нарадовым Камітэтам у мінулым годзе. Яна пакідала рачныя лініі ў руках Польшчы, робячы рэкі як бы рэзервнай лініяй. Граніца мела 1 340 км; рэкі ж, якія стваралі рэзервную лінію, — 900 км. Граніца не даходзіла да Дняпра, але аддавала ў наша валоданне 275 км Дзвіны, 80 км Улы, 355 км Бярэзіны.

Мы гублялі паводле яе на карысць Расіі Магілёўшчыну, Віцебшчыну, кавалак Міншчыны, частку Валыні і Падолля, а таксама Украіну.

Польшча ў межах Нарадовага Камітэта павінна была мець гарантаваную большасць польскага насельніцтва; прычым пры падліках польскага насельніцтва ў шмат якіх мясцовасцях яна ацэньвалася колькасна занадта нізка. Супрацоўнікам пры вызначэнні гэтай мяжы быў прафесар Ромер, галоўны эксперт, прафесійны географ на Рыжскай канферэнцыі.

Аднак мяжа, накрэсленая Рыжскай канферэнцыяй, вельмі адрознівалася ад мяжы Парыжскага Камітэта і, як вядома, прафесар Ромер у сваім дакладзе ставіў надзвычай сціплыя патрабаванні.

Рыжская канферэнцыя вызначыла межы Польшчы ў сціплых памерах. Натуральна, т.зв. лінія Керзана[29], якая праходзіць праз Беласток і Брэст, адразаючы ад Польшчы шэраг паветаў з польскай большасцю, дэпрэсіўна ўплывала на прафесара Ромера, які ведаў наколькі далёка адна з аўтатрытэтных груповак у Польшчы можа пайсці на ўступкі ў адносінах да пажаданняў кааліцыі, якія паўплывалі на вызначэнне граніц Польшчы на канферэнцыі. Цяпер мы канстатуем, што гэтая граніца з'яўляецца ў высокай ступені неадпаведнай, яна больш набліжана да граніц трэцяга падзелу, чым другога; з пункту гледжання памежных рэк і рэк, якія могуць быць рэзервнымі лініямі, яна значна слабейшая, чым граніцы 1772 і 1792 гг., граніц праектаваных Аляксандрам І і Песцелем, а таксама граніц Парыжскага Камітэта.

ральнікаў Саюза выратавання (1817). Аўтар „Рускай праўды", дзе вызначыў мяжу паміж Расіяй і Польшчай. За ўдзел у паўстанні дзекабрыстаў павешаны.

29 „Лінія Керзана" — умоўная назва лініі, якая была рэкамендавана ў снежні 1919 г. Вярхоўным саветам Антанты як усходняя граніца Польшчы. Назву „Керзана" лінія атрымала пазней — пасля таго, як міністр замежных спраў Англіі Джордж Керзан у час контрнаступлення Чырвонай Арміі на польска-савецкім фронце ў ноце ўраду РСФСР 11.VII.1920 г. прапанаваў ваюючым бакам заключыць перамір'е і адвесці войскі па лініі Гродна — Ялаўка — Няміраў — Брэст-Літоўск — Дарагуск — Усцілуг, на ўсход ад Грубяшова, праз Крылоў і далей на захад ад Равы-Рускай, на ўсход ад Пярэмышля да Карпат. Спачатку польскі ўрад згадзіўся прызнаць „лінію Керзана" як часовую граніцу. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. польска-савецкая граніца праходзіла далёка на ўсход ад гэтай лініі. „Лінія Керзана" з некаторымі зменамі на карысць Польшчы была пакладзена ў аснову савецка-польскага дагавора аб граніцах ад 16.VIII.1945 г.

Мы не зрабілі ніякіх высноў з усёй ваеннай кампаніі 1920 г., якая паказала, што калі вораг перайшоў лінію Бярэзіны і Дзвіны, то праз некалькі тыдняў ён быў ужо ў Вільні, а праз тры месяцы затрымаўся над Віслай, паколькі ад Бярэзіны і Дзвіны аж да самай Віслы няма лініі паралельнай з вышэйзгаданай. Можна запярэчыць, што ў 1920 г. Бярэзіна не дапамагла, што ў шмат якіх мясцовасцях у выніку спякотнага лета яна аказалася абмялеўшай. Але калі Бярэзіна аказалася слабой абарончай лініяй, то трэба было шукаць мацнейшую — Днепр аж да Прыпяці, а не рабіць стаўку на лінію, якую немагчыма абараніць.

Польска-расійская мяжа, накрэсленая Рыжскай канферэнцыяй, вельмі доўгая; сягае ў даўжыню каля 1 000 км.

Граніца гэтая ідзе пераважна лясамі, зараслямі, мае семдзесят з нечым кіламетраў балот і больш 500 км без аніякай натуральнай аховы, нават адносна малых рэчак. (...)

Сённяшнія эканамічныя ўмовы патрабуюць рачных памежных ліній. Стратэгічныя інтарэсы таксама сведчаць на карысць гэтага.

Усе мы добра памятаем, што ў сусветнай вайне баявы фронт вельмі часта затрымліваўся на лініі ракі і часцей за ўсё называўся іменем той ці іншай ракі. Гэта даказвае, што рэкі не згубілі стратэгічнага значэння. Аднак жа мы ўсталёўвалі граніцы ў Рызе па лініях не вялікіх рэк, а ручаін, там, дзе мы вызначалі водную мяжу. На Міншчыне мы спыніліся на Лані, малой рацэ, даючы праціўніку як рэзервныя лініі рэкі Случ, Пціч, потым Бярэзіну, а ў канцы Днепр і Дзвіну з іх прамежкавым кутом.

Мы пазбавіліся больш 47 000 кв. км паўночна-ўсходніх зямель, значнай часткі Міншчыны. Гэта гіганцкая страта. Нельга суцяшаць сябе тым, што ў параўнанні з лініяй Керзана мы атрымалі 95 000 кв. км паўночна-ўсходніх зямель і каля 40 000 кв. км на поўдні, а менавіта Ковенскі, Луцкі, Ковельскі, Уладзімірскі, Дубенскі, значную частку Крамянецкага, палову Астрогскага і кавалак Звягельскага паветаў. Перш за ўсё патрэба ў пасяленчых абшарах у Польшчы вельмі вялікая. (...)

Дык вось для асушэння палескіх балот з’яўляецца неабходным правядзенне каналаў да вялікіх рэк Прыпяці і Дняпра, альбо прынамсі да буйнейшых прытокаў Прыпяці. Але ж *мяжа, усталяваная Рыжскай канферэнцыяй, не дае нам доступу да вялікіх рэк, чым ускладняе, а нават робіць немагчымым у шмат якіх выпадках, асушэнне палескіх балот.* Гэта мае значэнне для тых палескіх паветаў, якія паводле рыжскіх пастаноў павінны застацца ў Польшчы.

Агульнавядома, што ўсходнія землі належаць да найбольш абязлюдзеўшых у выніку еўрапейскай вайны.

Брэсцкі павет страціў 68,6% свайго насельніцтва; Кобрынскі — 52,5%; Пружанскі — 60,6%; Слонімскі — 65%; Ваўкавыскі — 50 %; Гродзенскі — 47%; Віленскі — 25,8%; Браслаўскі — 27,2%; Лідскі — 26,6%; Аш-

мянскі — 37,7%; Свянцянскі — 22,5%; Троцкі — 47,5%; Вілейскі — 14,6%; Навагрудскі — 37,2%; Барысаўскі — 29%; Пінскі — 27%; Бабруйскі — 37,2%; Слуцкі — 4,6%; Мінскі — 13,4%; Ігуменскі — 15,6%.

Бачна такім чынам, што найбольш абязлюдзеўшымі паветамі з'яўляюцца тыя, што ляжаць на лініі расійска-нямецкага фронту 1915-1917 гг., а таксама паветы Брэсцкай акругі, якія падверглісія бяспрыкладнай варварскай расійскай эвакуацыі 1915 г. (...)

Дык вось, большасць значна пацярпеўшых паветаў не мае дастатковай колькасці лясоў для сваёй адбудовы. Падлічана, што лясоў Навагрудскага павета не хапіла б на адбудову спаленых хат і дамоў, а таксама прамысловых прадпрыемстваў гэтага павета. *Адсюль ясная выснова: Польшча, пазбаўленая найбольш лясных паветаў Міншчыны, будзе мець надзвычайныя цяжкасці ў адбудове сваіх усходніх зямель і ў іх засяленні.*

Без засялення ўсходніх зямель з'яўляецца немагчымай іх гаспадарчая адбудова. Ім патрэбна засяленне людзьмі з жывёлай, паколькі яны пазбаўлены не толькі насельніцтва, але і жывога інвентару. (...)

Міншчына была значна недаацэнена з эканамічнага пункту гледжання. Мінскі і Слуцкі паветы маюць гліністую глебу, вельмі ўраджайную. Гіганцкія залежы торфу ў Пінскім павеце, на шчасце пакінутым у складзе Польшчы, і адрэзаныя ад нас у Мазырскім, Рэчыцкім і Ігуменскім паветах пры адпаведнай эксплуатацыі могуць даць надзвычайнае багацце. Глеба асушаных балот мае вельмі шмат расліннага ўгнаення, ёй не хапае мінеральных элементаў, але ўзбагачаная калійнымі ўгнаеннямі з галіцыйскага Калуша, можа даць казачныя вынікі. Пясчаныя глебы Барысаўскага і Бабруйскага паветаў меней ураджайныя, але яны дасканала падыходзяць да вырошчвання бульбы, якая можа стаць падставай развітага свінаводства.

Вышэй мы гаварылі пра лясныя багацці адрэзаных тэрыторый Міншчыны. Гэтыя багацці былі падставай развітай дрэваапрацоўчай прамысловасці, яны могуць быць сыравінай для цэлюлозна-папяровых фабрык.

Адно толькі т.зв. Тураўскае лясніцтва плошчай каля 500 000 моргаў мае, паводле ацэнак спецыялістаў, значна большую каштоўнасць, чым знакамітая Белавежская пушча, і можа даць прыбытак пры эксплуатацыі дрэва ў дзесяткі мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

Не будзем забываць аб багаццях паўднёвых паветаў — Пласкіраўскага, Старакантанцінаўскага і Жытомірскага, таксама адрэзаных ад Польшчы, паколькі іх ураджайнасць і цукровая вытворчасць добра вядомы.

Згаданыя паўднёвыя паветы, улічваючы моцнае колькасна і матэрыяльна польскае насельніцтва, не абцяжарылі б яго палітычны лёс, у той час калі на поўдні польскае насельніцтва мае небяспечнага праціўніка ў постаці ўкраінскага насельніцтва, схільнага да анархіі, бунтаў, разні, накіраваных супраць польскага насельніцтва.

Можна зразумець пэўныя апасенні з боку Польшчы наконт мяжы па лініі Дняпра ніжэй Прыпяці, але поўнач не ўяўляе для нас аніякай небяспекі.

Беларускі элемент, пражываючы на поўнач ад Прыпяці, з'яўляецца пераходнай формай паміж палякамі і велікарусамі, які гістарычна сфарміраваўся на нашай гістарычнай тэрыторыі. На яго этычныя і праўныя погляды ўплывала польскае права і яго фарміраваў каталіцызм. (...)

Адзін з дэлегатаў на Рыжскай мірнай канферэнцыі, п[ан] Грабскі[30], апасаўся Мінска і таму не згаджаўся на мяжу, далей прасунутую на ўсход. У той час калі ў Мінску польскае насельніцтва сярод хрысціян займае першае месца не толькі па грамадска-гаспадарчай сіле, але і па колькасці. (...)

Не трэба было таксама адмаўляцца ад прыдняпроўскіх паветаў Магілёўшчыны.

Гэтая адмова не была нічым апраўдана.

Прыдняпроўскія паветы Магілёўскай губерні, такія, як Магілёўскі, Аршанскі, Сенненскі, важныя са стратэгічнага пункту гледжання па прычыне свайго геаграфічнага размяшчэння, маюць значную колькасць польскіх зямель, якія былі легкадумна аддадзены на міласць бальшавіцкай Расіі. (...)

Гэтая зямля па ўсёй справядлівасці павінна належыць патомкам тых, чыя маёмасць была канфіскавана ў выніку іх патрыятычнай дзейнасці, а таксама польскім салдатам, чыёй крывёй быў вызвалены гэты край. Таму да 50 000 дзесяцін можна было б аддаць пад вайсковае засяленне. У некалькі разоў больш зямлі знаходзіцца ў інструкцыйнай маёмасці, паўсталай у выніку прымусовага продажу; яна таксама можа лічыцца вайсковым пасяленчым фондам. Польшча магла б павялічыць колькасць польскага насельніцтва ў прамежкавым куце Дзвіна — Днепр; павялічыць польскае насельніцтва на лініях вялікіх рэк Дзвіны, Бярэзіны і Пцічы, а таксама паўднёвай і паўночнай Случы. Тады яна б мела панцыр, выкаваны з рыцарскай сталі, тады была б бяспечнай і ўпэўненай на ўсходзе. Гэта не было зроблена. Ці думалася, што такім чы-

[30] Грабскі (Grabski) Станіслаў (1871-1949) — польскі эканаміст, публіцыст, палітычны дзеяч, ідэолаг нацыянальнай дэмакратыі. У 1917 г. член Польскага савета міжпартыйнага аб'яднання ў Расіі. У 1918-1919 гг. член Польскага нацыянальнага камітэта ў Парыжы. У 1919 г. сузаснавальнік Народна-нацыянальнага саюза. У 1922-1927 гг. пасол Сейма. У 1923, 1925-1926 гг. міністр рэлігійных веравызнанняў і грамадскай асветы ва ўрадах Аляксандра Скшыньскага і Вінцэнты Вітоса. Пасля майскага перавароту 1926 г. парваў з нацыянальнай дэмакратыяй і прысвяціў сябе навуковай працы. У 1910-1939 гг. прафесар Львоўскага ўніверсітэта. У час Другой сусветнай вайны ўзначальваў Раду Нарадову — дарадчы орган пры лонданскім эміграцкім урадзе. У 1945-1946 гг. віцэ-старшыня Краёвай Рады Нарадовай.

нам можна атрымаць прыхільнасць Расіі? Не. Прыхільнасць Расіі немагчыма атрымаць гэтай уступкай. Яна спакушалася і рада б спакусіцца на нашы землі, якія ляжаць за Бугам і Санам, а ўступка гэтых тэрыторый, гэта адданне ў палон 4 мільёны палякаў, гэта пазбаўленне польскага народу магчымасці зрабіцца вялікай нацыяй. Польшча атрымае прыхільнасць Расіі не ўступкамі, а шляхам дасягнення на ўсходзе такой моцнай стратэгічнай, нацыянальнай і гаспадарчай пазіцыі, пры якой Расія адчуе, што не мае шанцаў на здабычу прадмета гістарычнай спрэчкі паміж Польшчай і Расіяй — нашых усходніх зямель. Перашкодай для працэсу, які вядзе да гэтай мэты, стала Рыжская канферэнцыя, прадукт нашай палітычнай неразважлівасці, прадукт партыйнага духу, які з-за ўнутраных спрэчак не можа ахапіць усяго комплексу польскага пытання.

Наша дэлегацыя на мірнай канферэнцыі ў Рызе гэта штосьці бяспрыкладнае ў гісторыі дыпламатыі. Усюды і заўсёды на мірныя канферэнцыі пасылаюцца людзі аднаго плану; мы паслалі маленькі сейм, складзены з прадстаўнікоў варожых партый.

У далегацыю былі ўключаны эксперты, якія паходзілі з прадстаўнікоў зямель, лёс якіх вырашала канферэнцыя, аднак гэтыя эксперты не былі дапушчаны да ўдзелу ў пленарных нарадах дэлегацыі, а мелі магчымасць атрымаць слова толькі ў камісіях, дзе часцей за ўсё старшыня — член адпаведнай дэлегацыі — заяўляў, што справа ўжо вырашана і прапановы эксперта ўжо запозненыя.

З публічных паведамленняў п[аноў] Грабскага і Барліцкага[31] вядома, што мы маглі б атрымаць значна большую тэрыторыю, што да Дзвіны і Бярэзіны бальшавікі адышлі б без супраціву, „але мы гэтага не хацелі" — гаварыў п[ан] Грабскі ў сваёй справаздачы. Пан Барліцкі распавядаў, што Грабскі згаджаўся на атрыманне Мінска, тады як ён, Барліцкі, сказаў, што будзе патрабаваць федэрацыі з Беларуссю і гэтая федэрацыя павінна быць гарантавана дамовай з Расіяй, на што п[ан] Грабскі не згадзіўся.

Пан Грабскі не меў рацыі, калі апасаўся Мінска, апасаўся валодання землямі да верхняга Дняпра, а на поўдні да Цецерава альбо Случы, але меў рацыю, калі не хацеў, каб Расія магла ўмешвацца ў польска-беларускія адносіны, як раней умешвалася ў справы неўніяцкага насельніцтва.

[31] Барліцкі (Barlicki) Норберт (1880-1941) — польскі палітычны дзеяч, адзін з лідараў ППС. У 1916-1919 гг. член Цэнтральнага рабочага камітэта ППС; намеснік міністра ўнутраных спраў ва ўрадзе Енджэя Марачэўскага; у 1919-1935 гг. дэпутат Сейма; у 1920 г. член Савета абароны дзяржавы, у 1920-1921 гг. член польскай дэлегацыі на мірнай канферэнцыі ў Рызе; у 1925-1926 гг. міністр грамадскай працы; у 1939-1940 гг. адзін з арганізатараў левай арганізацыі ППС „Барыкада вольнасці". Арыштаваны гітлераўцамі, загінуў у Асвенціме.

Вось так трыумвірат Грабскі — Домбскі[32] — Барліцкі вырашаў лёс беларускіх крэсаў, не ведаючы гэтай зямлі і не слухаючы думкі тых, хто яе ведаў. Пан Грабскі гаварыў, што беларуская справа з'яўляецца балячкай, якую трэба выразаць з цела Польшчы і прышчапіць на целе Расіі, гаварыў не разумеючы, што Польшча не можа адрачыся ад узяцця ў свае рукі вырашэння беларускага пытання без пераносу сваёй усходняй мяжы на Буг, і таму яна павінна заняць усю Беларусь, каб вырашаць беларускае пытанне без удзелу Расіі.

Партыйнасць, высакамернасць і няведанне справы паўплывалі на тое, што з лёгкім сэрцам землі, звязаныя культурай з Польшчай, з больш чым мільёнам польскага насельніцтва, былі аддадзены на міласць бальшавіцкай жорсткасці, нават без гарантый свабоды і жыцця гэтых суайчыннікаў.

Пад аховай польскага арла павінна знайсці абарону і ўмовы для развіцця кожная нацыянальнасць, якая пражывае на нашай тэрыторыі. Мы не хочам крыўдзіць мясцовае насельніцтва. Мы павінны даць яму стабільныя эканамічныя адносіны, меліярацыю яго глебы, элітнае насенне і інвентар. Польскі пасяленец, калі прынясе з сабой вышэйшую гаспадарчую культуру, не створыць гэтым недахопу зямлі, але ўзмоцніць тых, хто пражываў тут да яго.

Мы можам гарантаваць аўтаномію ўсім нацыянальнасцям нашай дзяржавы, але на яе мяжы павінен стаяць польскі салдат і таксама павінны быць групы палітычна поўнасцю добранадзейнага польскага насельніцтва, якое немагчыма будзе дэмаралізаваць. Такое насельніцтва мы можам мець на маланаселеных землях, амаль выпасах, якія мы ўступілі насуперак нашым патрэбам.

Пераклад з польскай мовы.

*Konferencja ryska a nasza granica wschodnia. Rada Polska Ziem Białoruskich*, Warszawa 1920, s. 14-34.

**№ 3**

**Пісьмо старшыні польскай дэлегацыі змешанай Пагранічнай камісіі на Усходзе[33] Л. Васілеўскага[34] міністру замежных спраў К. Скірмунту[35] аб жаданні насельніцтва беларуска-ўкраінска-польскага памежжа далучыцца да Польшчы**

г. Варшава ................................................................ 6 снежня 1923 г.

[32] Домбскі (Dąbski) Ян (1880-1931) — польскі палітычны дзеяч, дзеяч ПСЛ-Пяст у Галіцыі. У 1919 г. дэпутат Сейма. У 1920-1921 гг. віцэ-міністр замежных спраў, старшыня польскай дэлегацыі на мірных перагаворах у Мінску і Рызе, у 1928-1930 гг. віцэ-старшыня Сейма.

[33] Змешаная пагранічная камісія — створана на падставе палажэнняў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Пачала працу ў Мінску 2.V.1921 г., мела асноўнай задачай дакладную дэлімітацыю і дэмаркацыю дзяржаўнай граніцы паміж Польш-

Яснавяльможны Пан Міністр Канстанцін Скірмунт!

Падчас устанаўлення ў натуры мяжы паміж Польшчай і савецкімі рэспублікамі польская дэлегацыя змешанай Пагранічнай камісіі на Усходзе аказалася ў аблозе дэлегацый і засыпалася петыцыямі насельніцтва, якое патрабавала далучэння да Польшчы. Гэтыя петыцыі, якія паходзяць ад жыхароў вёсак, засценкаў, хутароў, лясных абшараў, фальваркаў без адрознення нацыянальнасці і веравызнання, складаюць вельмі цікавы матэрыял. На жаль, гэтыя лічбы не могуць быць апублікаваны, каб не стварыць пагрозу насельніцтву, пакінутаму на савецкім баку, не выклікаць помсту мясцовых улад. Аднак у кожным разе гэтыя петыцыі з'яўляюцца вельмі характэрным доказам імкнення ўсяго памежнага насельніцтва да Польшчы. У сувязі з гэтым дазволю сабе даслаць Пану Міністру пералік гэтых заяў, складзены ў геаграфічным парадку — ад поўначы да поўдня. Ён можа быць выкарыстаны канфідэнцыяльна ў выпадку неабходнасці ў Лізе Нацый як доказ на карысць польскіх спадзяванняў на беларуска-ўкраінскай тэрыторыі.

Да далучаных спісаў дадаю пару слоў каментарыя. Факт, што дадзеная гміна ці вёска, якая знаходзіцца ў памежнай паласе, не звярнулася да польскай дэлегацыі з заявай, зусім не значыць, што яна не хацела далучэння да Польшчы. Зносіны з польскай дэлегацыяй былі нечувана ўскладнёныя, так што дэлегацыі з-за мяжы мусілі прабірацца нелегальна, не раз з пагрозай для жыцця. Таму насельніцтва, якое жыве далей ад мяжы, ведала пра безнадзейнасць усякіх намаганняў на далучэнне да Польшчы і ў выніку не рабіла ніякіх захадаў у гэтым кірунку, хоць мы маем петыцыі таксама з ваколіц, размешчаных за 10, 15 і нават 40 вёрстаў за мяжой. Спісы подпі-

чай і савецкімі рэспублікамі (РСФСР, БССР і УССР). У склад камісіі ўваходзілі прадстаўнікі Польшчы, РСФСР, БССР і УССР. У лістападзе 1922 г. граніца была праведзена на мясцовасці і перададзена ў сферу нагляду адміністрацыйных і пагранічных органаў дагаворных бакоў. Камісія спыніла сваю дзейнасць у жніўні 1924 г., палічыўшы пастаўленыя раней задачы выкананымі.

[34] Васілеўскі (Wasilewski) Леон (1870-1936), польскі публіцыст, гісторык, дыпламат. З 1896 г. дзеяч Польскай сацыялістычнай партыі. Пасля яе расколу ў 1906 г. кіраўнік рэвалюцыйнай фракцыі. Рэдактар партыйных выданняў „Przedświt" („Зара"), „Robotnica" („Работніца"). Друкаваўся пад псеўданімам Л. Плахоцкі. У 1918-1919 гг. міністр замежных спраў Польшчы. З 1924 г. узначальваў Інстытут вывучэння найноўшай гісторыі Польшчы, з 1929 г. рэдактар часопіса „Niepodległość" („Незалежнасць"). З 1931 г. старшыня Інстытута вывучэння нацыянальна-вызваленчых спраў. У працах *Літва і яе народы* (1907), *Літва і Беларусь* (1912) і інш. даследаваў развіццё культуры і асветы, гісторыю беларускага і літоўскага нацыянальна-вызваленчага руху ў XIX — пачатку XX стст.

[35] Скірмунт (Skirmunt) Канстанцін (1866-1951) — дзеяч польскіх памешчыцкіх арганізацый на тэрыторыі Беларусі, у 1917-1919 гг. прадстаўнік Польскага нацыянальнага камітэта ў Рыме, у 1921-1922 гг. міністр замежных спраў, у 1923-1934 гг. пасол у Вялікабрытаніі.

саў на асобных заявах несувымерныя. Некаторыя заявы падпісвалі ўпаўнаважаныя, якія прадстаўлялі некалькі дзесяткаў і нават некалькі соцень галасоў. Дадам тут, што на ўсёй лініі мяжы ад Дзвіны да Збруча знайшлася толькі адна вёска, якая выказалася за далучэнне да дзяржавы Саветаў, хоць і з той вёскі (Ліпяні пад Радашковічамі) польская дэлегацыя атрымала пазней заявы (139 подпісаў), якія выказваліся за Польшчу.

З выразамі глыбокай павагі,
Старшыня Польскай дэлегацыі змешанай Пагранічнай камісіі
на Усходзе, паўнамоцны міністр і надзвычайны пасол
Л. Васілеўскі

**Дадаткаў 4*.**

**Дадатак № 1**
**Пералік заяў аб далучэнні да Польшчы**

**Полацка-Вілейскі адрэзак**

| Польскі бок | | | Расійскі бок | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Населены пункт | Колькасць подпісаў | Адлегласць ад мяжы (вёрст) | Населены пункт | Колькасць подпісаў | Адлегласць ад мяжы (вёрст) |
| Лепельскі павет | | | | | |
| Дзісненскае староства I. Язьненская гміна | | | I. Гміна Нача 1. ф. Нача Гжымалоўшчына | 1 | 8 |
| 1. Лес ф. Царкавішча | 1 | | 2. ф. Слаўцы | 1 | 2 |
| ф. Канарца | 1 | 10 | 3. ф. Церахова | 1 | |
| II. Гміна Ксавэрын 1. ф. Янава | 14 | прымежн. | 4. Северачызнянская Капліца | | |
| 2. ф. Ламача | 1 | прымежн. | II. Гміна Нача 1. ф. Нача | 1 | 5 |
| 3. ф. Лоза | 1 | | 2. ф. Турчына | 1 | 2 |
| 4. ф. Драздоўшчына | 13 | 6 | 3. ф. Старчынка | 1 | ¼ |
| III. Празароцкая гміна 1. в. Качаны | 1 | ¼ | 4. ф. Бедрыца | 1 | прымежн. |
| 2. ф. Гразі | 1 | 4 | 5. Могілкі в. Бедрыца | 13 | прымежн. |
| | | | 6. ф. Шыплін | 1 | 10 |
| | | | 7. ф. Нача Цяпішчызна | 1 | 3 |
| | | | 8. пас. Астраўшчына | 1 | |

* Друкуецца дадатак № 1.
* Назва гміны і № 1 мясцовасці прапушчаны.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9. ф. Грыбла | 1 | 1 |
| | | | 10. ф. Корабава | 1 | 1 |
| | | | 11. жыхары Лепельскага павета | 10 | - |
| | | | 12. ф. Канаршчына | 1 | |
| | | | 13. ф. Гварашчына | 5 | 1 |
| | | | III Варанецкая гміна<br>1. Жыхары Варанецкай гміны | 69 | |
| | | | IV. Арахоўская гміна<br>1. в. Грыбы | 10 | 2 |
| | | | 2. Далучэнне Загацкага касцёла | 67 | - |
| | | | 3. в. Арэхаўна | 30 | 1 |
| | | | V. Гміна Кублічы<br>1. ф. Камароўшчына Вітава | 1 | 10 |
| | | | VI. Гміна Ветжынская<br>1. пас. Бонань | 1 | |
| | | | Беларускі бок | | |
| | | | VII. Гміна*<br>2. ф. Волчкава | 1 | |
| | | | 3. ф. Забалацце Звярталіся прадстаўнікі насельніцтва (акрамя ўручэння заяў) асабіста з просьбай далучыць увесь павет ці паасобныя часткі. | 1 | |
| Дуніловіцкі павет | | | | | |
| Дуніловіцкае староства<br>IV. Туміловіцкая гміна | 1 | 10 | VIII. Туміловіцкая гміна<br>1. в. Чэрніца Лапо | 9 | 2 |
| 1. ф. Чэрніца (Сялібка) | | | 2. Дом Абуха пры Чэрніцы | 1 | прымежн. |
| 2. ф. Парэчча | 1 | прымежн. | 3. ф. Бярэспаль і Асовак | 1 | 4, 7 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 3. Сяляне Туміловіцкай гміны | 28 | 10 | 4. в. Вялікая Тураўшчына | 2 | 2 |
| V. Докшыцкая гміна 1. ф. Ясеўшына | 1 | - | 5. в. Малая Тураўшчына | 9 | 2 |
| 2. ф. Рашкоўка | 1 | 5 | 6. засц. Зарэчча | 3 | 2 |
| 3. вёскі Казакі, Дубавое, Янік, Азова, Верацейка, Гняздзілава | 158 | 15, 13, 20, 7, 7, 15 | IX. Докшыцкая гміна 1. в. Бухоніца | 1 | |
| | | | 2. ф. Бестроск | 1 | 5 |
| | | | 3. ф. Нябышын | 1 | 10 |
| | | | 4. ф. Круглая Пасека | 1 | |
| | | | 5. ф. Дырмонтаў | 1 | 10 |
| | | | 6. жыллё Кемешоўскай парафіі | 61 | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Барысаўскі павет | | | | | |
| | | | X. Вітунецкая гміна 1. в. Людвінава і Забожа | 1 | 15 |
| Вілейскі павет | | | | | |
| Вілейскае староства VI. Даўгінаўская гміна | 3 | 2 | XI. Даўгінаўская гміна 1. засц. Гарадзішча | 1 | 16 |
| 1. ф. Вардомічы | | | XII. Альковіцкая гміна 1. ф. Тэадорава | 10 | 12 |
| 2. ф. Нябышына | 2 | 10 | 2. ф. Крайчанка | 1 | 8 |
| 3. ф. Салонае | 1 | 5 | 3. жыхары 157 вёсак і мястэчак, фальваркаў Крайскай (Альковіцкай) гміны | 45 | 2 |
| 4. ф. Мільч | 1 | 8 | 4. в. Ляснікі | 80 | 6 |
| 5. Мільчанская Царква | 1 | 8 | 5. в. Хадакі | 20 | 5 |
| VII. Альковіцкая 1. Альковіцкая гмінная рада | 10 | 5 | 6. пас. Крайск | 50 | 2 |
| 2. в. Аўсенікі | 25 | 10 | 7. ф. Мікулін | 1 | ¼ |
| 3. ф. Мрозы | 5 | 6 | 8. ф. Людвінава | 1 | 3 |
| 4. ф. Юркава | 3 | прымежн. | 9. засц. Сабачын | 28 | 6 |
| VIII. Хаценчыцкая гміна 1. пас. Чарвякі | 1 | 6 | 10. жыхары ваколіцы Абрагімаўшчыны і засц. Сабачыны | 82 | 7-6 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 2. Жыхары Зачарні, Старынкі, Брыгідава, Чарвякоў, Навасёлак і Мардасаў | 82 | 14, -6, -3, 8 | 11. засц. Абрагімаўшчына, Казлічшы, Янаўчшына, Урублеўшчына і Сабачын | 76 | 7,-6, -8, -7, -6 |
| 3. Жыхары Радашковіцкага раёна | 7 | 2 | 12. ф. Разлішчы | 1 | |
| 4. в. Буцькі | 61 | 4 | 13. жыхары Крайскай гміны | 137 | 2 |
| IX. Радашковіцкая гміна<br>1. Клімонты, Максімаўка і Загорцы (вёскі) | 7 | 2-10-11 | 14. засц. Урупава | 18 | 9 |
| 2. в. Вялікія Бакшты | 1 | 4 | 15. жыхары нейтральнага пасу | 15 | |
| 3. в. Валокі | 2 | 7 | 16. ф. Гадзева | 2 | прымежн. |
| 4. Памежны камітэт V-га раёна і часткі I-га раёна Вілейскага староства | 4 | | 17. засц. Казлішчы і Янаўчшына | 76 | 6 |
| 5. в. Павязынь | 20 | прымежн. | 18. засц. Баяраўшчына | 30 | 7 |
| 6. в. Верамейкі | 20 | прымежн. | 19. в. Такары | 17 | прымежн. |
| | | | 20. ф. Нова-Такары | 1 | прымежн. |
| | | | 21. в. Сяляншчына | 1 | 4 |
| | | | 22. пас. Асінцы | 1 | 10 |
| | | | 23. в. Будзенічы | 7 | 8 |
| | | | 24. в. Гарадзішча | 7 | 10 |
| | | | 25. ф. Янава | 1 | прымежн. |
| | | | 26. в. Стрый | 111 | 4 |
| | | | 27. в. Дунай | 26 | 1 |
| | | | 28. ф. Дунай | 8 | $1^{1/2}$ |
| | | | 29. засц. Навінкі і Затруды | 112 | 3 |
| | | | 30. маёнтак Крычын і Геркі | 72 | 4 |
| | | | 31. ф. Вялікі Агарод | 7 | 4 |
| | | | 32. ф. Волкаўшчына | 5 | 8 |
| | | | 33. засц. Чарвячова | 7 | 3 |
| | | | 34. ф. Годзева | 1 | 1 |
| | | | 35. х. Годзева | 9 | 1 |
| | | | 36. в. Палосы | 78 | прымежн. |
| | | | 37. в. Цехановічы | 11 | 4 |
| | | | 38. засц. Урублеўшчына | 24 | 4 |
| | | | 39. в. Дунаі | 21 | 6 |
| | | | 40. засц. Боркі | 9 | 12 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 41. ф. Марыямпаль | 15 | 4 |
| | | | 42. в. Цагельня | 28 | прымежн. |
| | | | 43. ф. Віцэнтава | 7 | |
| | | | 44. ф. Сыкстусава | 4 | 7 |
| | | | 45. ф. Магдалінава | 15 | 8 |
| | | | 46. в. Франолін | 21 | 8 |
| | | | 47. в. Пасадзец | 22 | 2 |
| | | | 48. в. Дросткі | 11 | 8 |
| | | | 49. в. Трушкаўшчына | 17 | 9 |
| | | | 50. в. Дракі | 25 | 5 |
| | | | 51. засц. Зялёны Ручай | 13 | 12 |
| | | | 52. ф. Манякаў | 5 | 6 |
| | | | 53. ф. Навінкі | 7 | 6 |
| | | | 54. засц. Нова-Грашуліна | 7 | 12 |
| | | | 55. в. Кабылле | 27 | 7 |
| | | | 56. ф. Садоўшчына | 2 | 10 |
| | | | 57. ф. Пятрусін і Запоцье | 34 | 12 |
| | | | 58. ф. Стэфанаўка | 17 | |
| | | | 59. засц. Заглоўшчына | 1 | |
| | | | 60. ф. Акуліна | 15 | 6 |
| | | | 61. засц. Марынава | 1 | 6 |
| | | | 62. в. Вітунін і Якубаўшчына | 9 | 9 |
| | | | 63. ф. Ставішчы | 4 | 4 |
| | | | 64. ф. Мрацінаўка | 8 | 8 |
| | | | 65. в Рэпішчы | 37 | 6 |
| | | | 66. маёнтак Хатаевічы | 1 | 25 |
| | | | 67. ф. Забор’е | 1 | 5 |
| Барысаўскі павет | | | | | |
| | | | XIII Плешчаніцкая гміна<br>1. в. Борава | 128 | 6 |
| | | | 2. в. Завішын | 230 | 8 |
| | | | 3. жыхары ваколіц Совіна | 24 | 12 |
| | | | 4. в. Расохі | 18 | 20 |
| | | | 5. в. Стасева | 12 | 10 |
| | | | 6. ф. Белае | 40 | 10 |
| | | | 7. пас. Плешчаніцы | 39 | 28 |
| | | | 8. ф. Барсучына | 12 | |
| | | | 9. ф. Каракоўшчына | 8 | |
| | | | 10. ф. Боданек | 23 | 4 |
| | | | 11. ф. Белае | 19 | |
| | | | 12. засц. Трацякі | 12 | |
| | | | 13. в. Гаравец | 25 | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 14. засц. Есьмянаўка | 9 | |
| | | | 15. ф. Трысцень | 7 | |
| | | | XIV. Прусявіцкая гміна<br>1. прадстаўнікі Прусявіцкай гміны | 12 | |
| Вілейскі павет | | | | | |
| | | | XV. Хаценчыцкая гміна<br>1. в. Крамянец | 70 | 2 |
| | | | 2. в. Мошыцы | 29 | 16 |
| | | | 3. ф. Лоша | 1 | прымежн. |
| | | | XVI. Хаценчыцкая гміна<br>4. ф. Вяпраты | 1 | 14 |
| | | | 5. хутар № 12 | 1 | 10 |
| | | | 6. ф. Бабры | 1 | 18 |
| | | | 7. в. Дашкі | 63 | 5 |
| | | | 8. в. Дашкі Буцкі | 6 | 5 |
| | | | XVII. Радашковіцкая гміна<br>1. в. Важыні | 5 | 6 |
| | | | 2. ф. Цыганова | 1 | прымежн. |
| | | | 3. в. Дварышчы | 22 | прымежн. |
| | | | 4. в. Слабодка | 1 | 5 1/2 |
| | | | 5. в. Удра | 48 | 7 |
| | | | 6. ф. Бахнатоўка | 1 | 2 |
| | | | 7. в. Падіменная | 1 | |
| | | | 8. ф. Шаршуны | 1 | 5 |
| | | | 9. ф. Зосін-Гута | 1 | |
| | | | 10. в. Новы Двор | 1 | 13 |
| | | | XVIII Заслаўская гміна<br>1. в. Ліпені | 149 | прымежн. |
| | | | 2. ф. Маяроўшчына | 1 | прымежн. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Палескі адрэзак** | | | | | |
| Пінскае староства<br>I. Ленінская гміна<br>1. пас. Ворач | 79 | прымежн. | | | |
| 2. в. Грабаў | 51 | прымежн. | | | |
| 3. в. Мілевічы | 75 | прымежн. | | | |
| 4. в. Ёвічы | 11 | прымежн. | | | |
| 5. в. Палусевічы | 10 | 6 | | | |
| 6. пас. Леніна | 105 | прымежн. | | | |
| 7. в. Леніна | 72 | прымежн. | | | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пінскі павет** | | | | | |
| Лунінецкае старостава<br>I. Хорская гміна<br>1. в. Талмачова | 39 | 4 | Расійскі бок<br>I. Ленінская гміна<br>1. в. Залютычы | 57 | 2 |
| 2. хутар Мэрлін (Кастрыца) | 47 | $4^{1/2}$ | | | |
| **Лунінецкі павет** | | | | | |
| Лунінецкае староства<br>I. Бярозаўская гміна<br>1. хутар Яніна | 1 | прымежн. | Расійскі бок<br>I. Хорская гміна<br>1. в. Хільчыцы | 49 | $2^{1/2}$ |
| 2. в. Стары Завод | 64 | прымежн. | 2. в. Малішава | 94 | $1^{1/}$ |
| 3.в. Вайткавіцкія Будкі | 414 | прымежн. | II. Горская гміна<br>1. маёнтак Торфалес | 1 | 10 |
| 4. в. Сабічынская Слабодка, Каменка і Янінаў | 308 | прымежн. | | | |
| **Сарнецкі павет** | | | | | |
| I. Гміна Кісорычы<br>1. в. Снавідовічы і Снавідовіцкія Будкі | 10 | 14 | Украінскі бок<br>I. Гміна Кісэрычы<br>1. х. Трызма Дабрадзеі | 9 | прымежн. |
| 2. в. Акопы | 11 | 11 | 2. чуг. ст. Міхалоўка | 27 | 7 |
| | | | 3. в. Сабічын | 103 | $1^{1/2}$ |
| | | | 4. в. Сабічынскія Млынкі | 39 | 8 |
| | | | 5. х. Марыямпаль | 42 | 15 |
| | | | 6. Хутар Зовень | 20 | 21 |
| | | | 7. в. Ванячы | 1 | 2 |
| | | | 8. маёнтак Лапатычы, Ванячы | 1 | $2^{1/2}$ |
| | | | II. Гміна Людвіпаль<br>1. Кляновая Рудня | 1 | 2 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Мінска-Нясвіжскі адрэзак** | | | | | |
| Польскі бок | | | Беларускі бок | | |
| **Мінскі павет** | | | | | |
| Стаўбцоўскае староства<br>I. Гміна Ракаў<br>1. жыхары Даўгінаўскай, Краеўскай, Хаценчыцкай і Радашковіцкай гмінаў | 69 | | I. Гміна Ракаў<br>1. жыхары ст. Радашковічы | 68 | 8 |
| 2. в. Верамейкі | 1 | прымежн. | 2. в. Венцалева | 39 | прымежн. |
| 3. в. Гурновічы, Сяледчыні, Вязынь | 48 | прымежн. | 3. в. Вялікая Барздынь | 16 | 6 |
| 4. в. Гурновічы | 8 | прымежн. | 4. в. Малая Барздынь | 20 | 11 |
| 5. маёнтак Гурновічы | 8 | прымежн. | 5. ф. Барздынь | 11 | 9 |
| 6. в. Крыніца | 1 | 1 | 6. в. Зукі | 38 | 2 1/2 |
| 7. в. Палікшты, Гермашышкі, Зукаў, Загай | 109 | 5 | 7. в. Юрыкі і Тэйкі | 16 | 11-9 |
| 8. в. Мархаеўшчына | 14 | 10 | 8. в. Казельшчына | 24 | 3 |
| 9. в. Вэнгліўшчына | 15 | 2 | 9. в. Новае Поле | 1 | 4 |
| 10. засц. Гермашышкі | 21 | 2 | 10. в. Варонкі | 57 | 1 1/2 |
| 11. х. Гай | 56 | | 11. в. Лукашы | 36 | 5 |
| 12. горад Ракаў | 553 | 4 | 12.в. Навадворшчына | 20 | 14 |
| 13. в. Дамінава | 13 | 3 | 13. ф. Боркі | 2 | |
| 14. в. Вазноўшчына | 13 | 1 | 14. в. Ліхачы, Казакі | 19 | 5-7 |
| 15. в. Палікшты | 24 | 6 | II. Заслаўская гміна<br>1. в. Даўжаны | 56 | 2 |
| II. Волменская гміна<br>1. в. Загайна | 10 | 2 | 2. в. Хмелеўка | 34 | 4 1/2 |
| 2. в. Шчэпкі | 50 | 2 | 3. в. Чарняўшчына | 11 | 5 |
| 3. ф. Яхімава | 1 | прымежн. | 4. в. Крылава | 55 | 7 |
| III. Рубяжэвіцкая гміна<br>1. в. Сула | 1 | прымежн. | 5. в. Навадворшчына | 69 | 8 |
| 2. ф. Мікулічы | 1 | прымежн. | 6. мястэчка Заслаўе | 88 | 10 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 3. жыхары пас. Рубяжэвічы | 193 | | 7. жыхары Заслаўскай гміны | 455 | 10 |
| 4. Рубяжэвіцкі касцёл | 1 | | 8. маёнтак Заслаўе | 1 | 10 |
| 5. в. Ліхачы | 4 | 2 | 9. в. Углы | 12 | 10 |
| 6. засц. Сосенка | 15 | 1 | 10. в Зытычына | 86 | 10 |
| 7. чуг. ст. Гарадышча | 1 | | 11. Банькоўшчына | 72 | 16 |
| IV. Гміна Засулле 1. в. Барокўшчана | 1 | 1 | 12. в. Загор'е | 123 | 12 |
| V. Гміна Свержань 1. в. Свэрынава | 141 | 2 | 13. в. Лапацэвічы | 48 | 10 |
| 2. в. Свэрынава-Куцец | 162 | 4 | 14. в. Варошыль | 58 | 6 |
| 3. ф. Куковічы | 1 | 2 | 15. в. Дзячкі | 20 | 7 |
| Нясвіжскае староства I. Лясунская гміна 1. в. Затур'е | 95 | 2 | 16. в. Загарычы | 30 | 8 |
| 2. в. Пляшэвічы | 30 | 1 | 17. в. Анусін | 1 | 10 |
| 3. ф. Смолічы | 1 | 2 | 18. ваколіцы Валоўшчыны | 120 | 10 |
| II. Грыцавіцкая гміна 1. в. Макраны, Кунцаўшчына, Цехава, Шастакі | 1 | | 19. в. Шумнікі | 88 | 5 |
| 2. ф. Ляцешын | 1 | 2 | 20. засц. Ратамка | 118 | 13 |
| 3. х. Какора | 1 | | III. Старасельская гміна 1.в. Таўкачэўшчына | 300 | 15 |
| 4. в. Вялікі Рожын | 100 | | 2. маёнтак Прудзішчы | 72 | 14 |
| 5. в. Новыя Макраны | 2 | 2 | 3. маёнтак Ратамка | 1 | 16 |
| 6. х. Неўня, Сярэда, Лісічына | 8 | 4 | 4. маёнтак Новыя-Лукі | 1 | 15 |
| | | | 5. мястэчка Ратамка | 67 | 16 |
| | | | 6. засц. Углы, Навінка, Смалярня | 49 | 10 |
| | | | 7. засц. Пехурова | 29 | 25 |
| | | | 8. в. Падгрушава | 30 | 25 |
| | | | 9. в. Яхоўшчына | 112 | |
| | | | 10. в. Ваські | 237 | 20 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 11. в. Эўторы | 54 | 12 |
| | | | 12. засц. Хмелеўка | 30 | |
| | | | 13. пас. Ухадз з гм. Старасельскай | 215 | 18 |
| | | | 14. в. Глушынцы | 27 | 8 |
| | | | 15. в. Міклашы | 53 | 3 |
| | | | 16. в. Плашава | 58 | 13 |
| | | | 17. Сярэдняе Плашава | 13 | |
| | | | 18. Вялікае Белякава, Малое Белякава | 134 | 8 |
| | | | 19. в. Дуброва і Карасеўшчына | 55 | |
| | | | 20 ф. Краснае, Ліпкі, Сівакі, Маева, Пяроўшчына, Кута, Старынкі, Будуны | 209 | |

Пераклад з польскай мовы.

Archiwum Akt Nowych. Ambasada RP w Londynie, sygn. 854, k. 135-140. Арыгінал.

## Скарачэнні

в. — вёска
засц. — засценак
прымежн. — прымежны
пас. — пасёлак
ф. — фальварак
х. — хутар
чыг. ст. — чыгуначная станцыя

**Uładzimir Snapkoúski** — profesor nauk historycznych w Katedrze Stosunków Międzynarodowych Białoruskiego Uniwerystetu Państwowego w Mińsku. Zainteresowania badawcze: historia polityki zagranicznej i dyplomacji Białorusi w XX w. oraz polityki zagranicznej Republiki Białoruś.